

№ 21 (134)

**Чэрвень 2006 года**

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


**У нумары:**



## Нашы віншаванні

Сябры грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд культуры» і рэдкалегія «Краязнаўчай газеты» цёпла віншуюць намесніка галоўнага рэдактара выдання, вядомага беларускага пісьменніка **Генрыха Вацлававіча Далідовіча з 60-годдзем з дня нараджэння.**

У гэты знамянальны дзень – 1 чэрвеня 2006 года кожны паасобку і ўсе разам мы сардэчна абдымаем Генрыха Вацлававіча і шчыра жадаем юбіляру здароўя, каб здолеў вытрымаць не толькі нашыя абдымкі.

Зычым Вам, дарагі Генрых Вацлававіч, і далей увасабляць свой пісьменніцкі талент у новыя цікавыя творы, плённа працаваць на ніве краязнаўства, дабрабыту Вашай сям'і – усё гэта, упэўненыя, пойдзе на карысць нашай агульнай справы – росквіту культуры матухны-Беларусі.

* * *

***Паважаны Генрых Вацлававіч!***

*Ад шчырых сэрцаў па-сяброўску віншуем Вас з юбілеем!*

*Ведайце, што на Магілёўшчыне жыве вельмі шмат шчырых прыхільнікаў Вашага пісьменніцкага таленту, паплечнікаў Вашай краязнаўчай дзейнасці.*

*Для многіх з нас Вы з'яўляецеся яскравым прыкладам сапраўднай беларускасці, узорам руплівых і дбайных адносінаў да мінуўшчыны нашай Бацькаўшчыны, яе культуры і мовы.*

*Жадаем моцнага здароўя, творчага натхнення!*

*Чакаем многа-многа Вашых новых твораў!*

***Сябры грамадскай ініцыятывы «Асацыяцыя краязнаўцаў малых мястэчак Магілёўшчыны»***
***Сябры ГА «Бялыніцкае краязнаўчае таварыства»***

## На тым тыдні...

● **З 1 па 4 чэрвеня** ў г.п. Акцябрскі Гомельскай вобласці праходзіў IV Усебеларускі фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня». Рэпартаж з месца падзей чытайце ў наступным нумары «КГ».

● **З 2 па 4 чэрвеня** ў Гродне прайшлі заключныя мерапрыемствы VI Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур, арганізаванага Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Гродзенскім аблвыканкамам, Гродзенскім гарвыканкамам.

● **25 мая** ў Мінску адбыліся мерапрыемствы, прымеркаваныя да Дня памяці класіка нашай літаратуры Максіма Багдановіча. А 12-й гадзіне прайшло ўскладанне кветак да помніка паэту, што ля тэатра оперы і балета, затым адбылася памінальная служба ў Свята-Петра-Паўлаўскім саборы. Завяршыла мерапрыемствы імпрэза «Светлы сум», якая была наладжана ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. На ёй выступілі такія вядомыя паэты і пісьменнікі як Валянціна Коўтун, Леанід Дранько-Майсюк, Васіль Жуковіч, бард Алесь Камоцкі.

● **31 мая** Дзяржаўным музеем гісторыі тэатральнай і музычнай культуры сумесна з Нацыянальнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА была наладжана прэзентацыя кнігі нашчадка роду Агінскіх на Беларусі Івы Залускага «Ген Агінскіх» і дыска «Музыка дынастыі Агінскіх». З Англіі прыехаў на прэзентацыю сам аўтар – кампазітар І. Залускі, які выступіў перад шматлікімі карэспандэнтамі СМІ Беларусі, а вечарам даў фартэп'янны канцэрт у Белдзяржфілармоніі, на якім гучала музыка роду Агінскіх.

*Мінулае, якое захоўваецца ў памяці, ёсць частка сённяшняга дня.*

*Тадэвуш Катарбіньскі*




## Вяртанне

***11 чэрвеня ў Мінску, у крыпце касцёла Святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл), адбудзецца перапахаванне астанкаў Эдварда Вайніловіча (13.10.1847, Сляпянка пад Мінскам – 16.06.1928, Быдгашч, Польшча), на чые ахвяраванні быў узведзены гэты храм.***

У інтэрв'ю БелаПАН настаяцель касцёла ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк зазначыў, што пытанні эксгумацыі астанкаў Э. Вайніловіча і пераноса яго праху на радзіму ўзгоднены з усімі дзяржаўнымі і рэлігійнымі структурамі ў Польшчы і Беларусі. «Дзякуючы намаганням польскіх гісторыкаў і краязнаўцаў у Варшаве была адшукана 91-гадовая Ірэна Янджыевіч – унучка сястры Эдварда Вайніловіча. Ад усяго роду Вайніловічаў, прадстаўнікі якога жывуць у Беларусі, Велікабрытаніі, Расіі і Польшчы, яна дала пісьмовы тэстамент на эксгумацыю астанкаў Эдварда Вайніловіча і перапахаванне іх у Чырвоным касцёле», – сказаў У. Завальнюк. Паводле яго слоў, у падтрымку пераносу астанкаў Э. Вайніловіча выказаліся многія вернікі Мінска.

Цырымонія эксгумацыі адбылася ў Быдгашчы 8 чэрвеня з удзелам дэлегацыі з Мінска. «У сувязі з тым, што на сродкі Эдварда Вайніловіча ў Быдгашчы быў узведзены шматпавярховы дом для дзяцей-сірот, мэр Канстанцін Дамбровіч прапанаваў правесці падзячную сустрэчу з жыхарамі горада на галоўнай яго плошчы вечарам 8 чэрвеня. У цырымоніі чакаецца ўдзел беларускіх дыпламатаў у Польшчы. Ад'езд з Быдгашча запланаваны на раніцу 10 чэрвеня», – сказаў У. Завальнюк.

Паводле яго слоў, у Чырвоным касцёле мяркуецца правесці набажэнства з удзелам кардынала Казіміра Свёнтэка, на якое будуць запрошаны прадстаўнікі розных канфесій, свецкіх улад і дыпламаты. «Крыпта з астанкамі Эдварда Вайніловіча будзе даступнай для вернікаў. Ля яе можна будзе памаліцца, ускласці кветкі і паставіць свечкі», – зазначыў У. Завальнюк. Ён лічыць, што гэтая акцыя стане крокам па вяртанні на радзіму імёнаў тых вялікіх постацяў, якія шмат зрабілі для свайго народа.

«Перапахаванне астанкаў Эдварда Вайніловіча будзе данінай добрай памяці таму пакаленню, дзякуючы якому ўзведзена велічная святыня культуры і духоўнасці – Чырвоны касцёл, што стаў візітнай карткай Мінска і Беларусі», – падкрэсліў У. Завальнюк.

*Марат ГАРАВЫ*

## Ушануем сваё...

**Добра, што да тэмы ўшанавання памяці аб сваіх вёсках звяртаюцца (услед за «Краязнаўчай газетай») і іншыя друкаваныя і электронныя СМІ. Ужо адбыліся перадачы па радыё, цікавы артыкул папячыцеля Духоўна-адукацыйнага цэнтра Беларускай Праваслаўнай царквы Аляксандра Ахрыменкі з'явіўся ў газеце «Звязда» (№ 106 ад 18 мая 2006 г.). Ён прысвечаны невялікай барысаўскай вёсачцы Дубовікі, яе заснавальнікам і насельнікам.**

Чытачы ж «Краязнаўчай газеты» ўсё часцей звяртаюцца да тэмы захавання памяці аб зніклых вёсках і лёсе іхніх жыхароў. Практычна кожны нумар «КГ» друкуе матэрыялы, якія ў той ці іншай ступені набліжаюць нас да высновы: тэма, узнятая «КГ», актуальная, важная для захавання нашай гістарычнай спадчыны, тэма, якая патрабуе ўвагі дзяржаўных устаноў і арганізацый.

На мой погляд, з першага этапу пошуку такіх мясцін павінны былі б убачыць свой інтарэс раённыя музеі – менавіта тыя культурныя ўстановы, якім па сваім статусе належыць збіраць дакументальныя звесткі аб нашым мінулым. Не менш важна, каб да гэтага даследавання з разуменнем падыйшлі і сельскія бібліятэкі, асабліва тыя, якія займаюцца краязнаўствам і прымаюць удзел у конкурсе Міністэрства культуры і Беларускага фонду культуры «Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры». Хочацца верыць, што работнікі культуры (музейныя, бібліятэчныя) зацікавяць гэтай сваёй, у поўным сэнсе, даследчыцкай працай кіраўнікоў мясцовай улады (сельскіх і раённых саветаў). Мясцовыя архівы павінны яшчэ захоўваць шмат інфармацыі аб гісторыі населеных пунктаў. Безумоўна, гісторыя зніклых вёсак зацікавіць і краязнаўцаў школ, іхнія краязнаўчыя музеі. Школьная турыстычна-краязнаўчая праграма «Наш край» магла б скіравацца на пошук такіх месцаў, дзе існавалі раней вёскі і вёсачкі, маёнткі былых жыхароў сельсавета-раёна, а заадно атрады школьнікаў-краязнаўцаў здолелі б зрабіць першыя крокі па мемарыялізацыі гэтых месцаў: прыбраць іх, высекчы кустоўе, сабраць з поля каменьчыкі ў невялікую піраміду на месцы існавання вёскі, зрабіць (хаця б з таго ж дрэва) своеасаблівы мемарыяльны знак з самаробнай шыльдачкай. Усё гэта можа быць на карысць будучай вялікай рабоце па ўшанаванні гісторыі вёсак, іх спрадвечных назваў.

Такая, смела кажу, патрыятычная справа абавязкова павінна натхніць кіраўнікоў мясцовых уладаў, гаспадарак, і нехта з іх абавязкова далучыцца да гэтай патрыятычнай акцыі.

***Уладзімір ГІЛЕП,***
***галоўны рэдактар «Краязнаўчай газеты»***





## Новае выданне

***Працаўнік на глебе нацыяльнага фальклору, даўні сябра Беларускага фонду культуры Васіль Ліцьвінка выдаў чарговую сваю кнігу «Фальклор і этнакультура Чарнобыля. З нагоды 20-годдзя сусветнай катастрофы».***

Працуючы загадчыкам навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта В.Ф. Ліцьвінка падышоў па-навуковаму грунтоўна да назапашанага (у першую чаргу яго асабістай працай) матэрыялу. За 40 гадоў збіральніцтва ім сабрана больш за 1 мільён тэкставых запісаў, каля 200 тысяч аўдыёзапісаў музычнага фальклору, 60 відэафільмаў аб самабытных з'явах фальклору і рэгіянальнай культуры, зробленых да і пасля Чарнобыльскай аварыі.

Выкарыстаны ў кнізе і архівы другога навуковага цэнтра даследавання фальклору – лабараторыі і фальклорнага архіву пры кафедры беларускай літаратуры Гомельскага універсітэта, часовага навуковага калектыву Беларускага інстытута праблем культуры 1992–1994 гг. і інш.




У манаграфіі пададзена праца беларускіх, рускіх, украінскіх і польскіх фальклarystаў, выкарыстаны унікальны фотаархіў, навуковы апарат узбагаціўся двума дадаткамі: «Рэестр рэгіянальнага архіва Чарнобыльскага рэгіёну» (у разрэзе раёнаў Беларусі) і «Рэестр відэаархіва навукова-даследчай лабараторыі Белдзяржуніверсітэта».

Выданне, якое выйшла ў маі 2006 года накладам 350 асобнікаў у Выдавецкім цэнтры БДУ, рэкамендавана навукоўцам і практыкам адукацыі і культуры ў галіне фальклору, этналінгвістыкі, гісторыі і этналогіі, а таксама ўсім, каго цікавіць культура і гісторыя беларускага этнасу.

Пазнаёміцца з кнігай больш падрабязна можна на сайце www.folkndl.bsu.by.

---

24 мая шырока адзначаецца Дзень славянскай пісьменнасці і культуры.

*«Старажытнаславянскую мову мы атрымалі ад Бога, і нельга з ёй абыходзіцца абы-як. Роднае слова ў поўнай ступені выражае ўвесь духоўны і эмацыянальны стан чалавека. З гэтых пазіцый і неабходна весці барацьбу супраць паўсюднага распаўсюджвання замежнай лексікі. На мой погляд, найперш трэба ратаваць кірыліцу. Наш разгром пачынаецца з таго, што кірыліцу выцясняе лацінскі шрыфт. Заняволенне народа пачынаецца з выкаранення роднай мовы, з раздвойнасці культуры. Я перакананы: захаваем родную мову – захаваем усё».*

Гэтыя мудрыя словы належаць вядомаму рускаму пісьменніку Васілю Бялову.

Як вядома, кірыліцай сёння карыстаюцца ўсходнія славяне. Заходнія і паўднёвыя, на жаль, не ўшанавалі памяць пра братоў Кірылу і Мяфодзія. Заклікаем жа вас, суайчыннікі, не выракацца беларускага правапісу, сваёй мовы.

*Сяргей МАКАРЭВІЧ,*
*студэнт журфака БДУ*

---

## Чытацкі водгук

**Паважаны Уладзімір Гілеп!**
(Прабачце, што не ведаю Ваша імя па бацьку)

Маю сказаць слоўца да апублікаванага ў газеце ў рубрыцы «Сучасныя беларускія краязнаўцы». Думаю, што ён няпоўны. Сапраўдныя краязнаўцы знаходзяцца ў першую чаргу ў мясцовых музеях (у тым ліку і школьных, а можа, найперш у іх), у раённых і гарадскіх бібліятэках, у некаторых сельскіх (не меней аднаго-двух на раён). Менавіта там, як і ў школьных музеях, краязнаўчая глеба, першыя парасткі. Хацелася б, каб гэтых энтузіястаў-краязнаўцаў і ўспомнілі.

У асобных раённых бібліятэках Беларусі не так даўно (калі Вы працавалі намеснікам міністра культуры і некалькі пазней) была ў штаце адзінка (пасада) метадыста-краязнаўца. Так, у Светлагорскай цэнтральнай бібліятэцы на гэтым участку працавала Галіна Канстанцінаўна Маладзьянава (былая мая вучаніца, таму і ведаю). Яна энтузіяст краязнаўства. Але не так даўно гэтую пасаду скарацілі і цяпер яна метадыст-бібліёграф ці яшчэ неяк. З многіх сотняў экспанатаў, сабраных ёю, частка пайшла ў Светлагорскі краязнаўчы музей (то добра), а астатнія нікому непатрэбныя. Вось такі ў нас размах краязнаўства.

На мой погляд, у кожным райцэнтры і горадзе ў цэнтральнай бібліятэцы павінен нехта быць са спецыялістаў, хто б каардынаваў прапаганду беларускай літаратуры і вёў краязнаўчую работу.

Ведаю, што такое цяпер не ў Вашай кампетэнцыі, але ж ёсць «Краязнаўчая газета», якая падасць свой голас, і, магчыма, ён будзе пачуты.

***З павагай, шчыра – Віктар АРЦЕМ'ЕЎ,***
***г. Магілёў***

---

# Месца знаёмства — Горкі

***Гартаючы кнігу «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі», угледзеў фотаздымак з подпісам: «Гаўрыла Гарэцкі (справа) са сваімі сябрамі з Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча (злева направа: Белахвостаў, І. Аўчыннікаў, А. Сухі). Горкі, лістапад 1914». Нічым асаблівым фотаздымак не прыкметны – чацвёра юнакоў у школьнай форме. Толькі праз гады два даведаўся, што А. Сухі з фотаздымка – гэта Андрэй Мікалаевіч – стрыечны брат вядомага авіяканструктара Паўла Восіпавіча Сухога. А яшчэ, што бацька А. Сухога нарадзіўся ў в. Вязынка Вілейскага раёна, а сам Андрэй Мікалаевіч працаваў пэўны час каморнікам у Вілейцы.***

...Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі – вядомы як у Беларусі, так і за яе межамі вучоны – паходзіць з Мсціслаўшчыны. У 1914 годзе ён паступіў у Гора-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча.

За год да гэтага тое ж вучылішча скончыў Максім Гарэцкі – родны брат Гаўрылы. Падчас Максімавага навучання з будучым пісьменнікам пазнаёміўся Андрэй Сухі, які хаця і быў па ўзросце старэйшым, але вучыўся ў малодшым класе.

З успамінаў Андрэя Мікалаевіча:

«...я неяк адразу вылучыў Максіма па яго сур'ёзнасці ў кожнай справе і адносінах да сяброў. У скорым часе нас злучыла і супольная цікавасць да беларускага друкаванага слова. ... Максім Гарэцкі адзін з першых сярод нас пачаў пісаць па-беларуску карэспандэнцыі і малыя апавяданні з жыцця магілёўскіх сялян, адсылаючы іх у рэдакцыю «Нашай Нівы». ... Варта паслухаць яго гутарку, нашу мову, якая гучала ў яго вуснах як песня, каб запомніць яго на ўсё жыццё. Ласкавасць, чуласць, пранікнёнасць гарнулі да яго людзей. Ён меў вялікі дар чалавечнасці, крыштальнай людской дабраты» (Гарэцкі Р. Ахвярую сваім «я»... Мн., 1998).

Пасля паступлення малодшага Гарэцкага ў вучылішча, Андрэй пасябраваў і з ім.

Пад уплывам Максіма Гарэцкага А. Сухі пачаў і сам пісаць у «Нашу Ніву». Падпісваўся псеўданімам Мікалай Мокры.

У кнізе «Памяць» Вілейскага раёна краязнавец Анатоль Рогач піша, што Андрэй Сухі падчас вучобы ў Горках арганізаваў беларускі літаратурны гурток. Але пра гурток нічога не гаворыцца ў кнігах «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі», «Гаўрыла Гарэцкі», «Ахвярую сваім «я»...». Вядома, што Гаўрыла Гарэцкі арганізаваў у вучылішчы Беларускі вучнёўскі гурток, які затым стаў называцца Беларускай секцыяй вучняў Горацкіх сельскагаспадарчых школ, а пасля Беларускай секцыяй студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута, якая існавала да 1924 года. Хутчэй за ўсё, Андрэй Сухі ўзначальваў літаратурны аддзел у секцыі, якая мела яшчэ гісторыка-эканамічны, музычны, чыстага мастацтва аддзелы. Калі б секцыя была арганізавана на аснове гуртка Сухога, пра тое хаця б раз узгадвалася ў пералічаных кнігах. Хаця і гэта яшчэ нічога не даказвае.

...Сяброўства паміж Гаўрылам Гарэцкім і Андрэем Сухім працягвалася доўгія гады. Не забываўся Сухі і пра Максіма, чый лёс абарваўся ў 1938 годзе. Андрэй Мікалаевіч – аўтар артыкула «З юначых гадоў» у кнізе «Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы» (Мн., 1984).

*Сяргей МАКАРЭВІЧ,*
*студэнт журфака БДУ*

---

# Сучасныя беларускія краязнаўцы

### Матэрыялы да слоўніка

**Супрун** Васіль Рыгоравіч (н. 10.03.1926, в. Глоўсевічы Слонімскага р-на Гродзенскай вобл.). Працаваў настаўнікам, будаўніком. Скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю (1944), Ганцавіцкае педвучылішча (1946), Мінскі педагагічны інстытут (1969). Краязнаўчую дзейнасць пачаў у 1963 г. Настаўнікамі лічыць археолагаў В. Тарасенку, А. Мітрафанава, М. Чарняўскага, Г. Штыхава. Вывучае Слонімшчыну, археалогію Гродзенскай і Брэсцкай абласцей.

Тв.: За смугою часу. Мн., 1994; Дзеі над Шчарай. Слонім, 2000.

**Сутколенка** Вольга Міхайлаўна (н. 15.04.1963, г. Ельск Гомельскай вобл.), настаўніца Нізаўскай школы Уздзенскага раёна. Скончыла Гомельскі дзяржаўны універсітэт (1988). Вывучае жыццё і творчасць знакамітых ураджэнцаў вёскі Нізок. Настаўнікам лічыць пісьменніка Алеся Махнача. Стварыла школьны музей Слова.

**Тарасаў** Сяргей Васільевіч (н. 20.01.1961, г. Мінск), кандыдат гістарычных навук (1992), загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Скончыў Мінскі педінстытут (1982). Краязнаўчую дзейнасць пачаў студэнтам у 1977 г. Настаўнікам лічыць М. Гнеўку. Вывучае помнікі археалогіі.

Тв.: Чарадзей сёмага веку Траяна. Усяслаў Чарадзей. Мн., 1991; Полацк. Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998 і інш.

**Токць** Сяргей Міхайлавіч (н. 12.04 1968 г., в. Бершты Шчучынскага раёна Гродзенскай вобл.), кандыдат гістарычных навук, выкладчык ГрДУ, супрацоўнік навукова-даследчай лабараторыі ГрДУ. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я. Купалы (1992). Краязнаўствам пачаў займацца ў 1991 г. Сваім настаўнікам лічыць М. Улашчыка. Вывучае гісторыю в. Бершты і Бярштанскай пушчы. Прымаў удзел у канферэнцыях і экспедыцыях. Аўтар манаграфічнага даследавання Бярштанскай пушчы, шматлікіх артыкулаў у навуковым і перыядычным друку.

**Трацяк** Іван Іванавіч (н. 17.03 1956, в. Труханава Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл.), кандыдат гістарычных навук (2000). Скончыў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт (1985), дзе і працуе. Краязнаўчую дзейнасць пачаў у 1991 г. Настаўнікам лічыць А. Пяткевіча. Вывучае лёсы дзеячаў культуры Гродзеншчыны, асабліва – Ашмяншчыны і Смаргоншчыны.



*В. Супрун*



*В. Сутколенка*

## Бяспечнае лета

Першыя цёплыя дзянькі дзейнічаюць на нас, якім надакучылі халады і праліўныя дажджы, зусім незвычайным чынам. Нам хочацца адправіцца ў далёкія краіны альбо ў вёску да бабулі ці проста ў лес на шашлыкі. І ўсё ж, ад'язджаючы ў адпачынак альбо проста сыходзячы з кватэры, не забывайце абястачыць усе электрапрыборы і выключыць святло, зачыніць усе вокны і балконныя рамы. Праверце, ці няма ўцечкі газу, пры яе выяўленні паведаміце па тэлефоне 04.

Не забывайцеся наглядваць за сваімі дзецьмі. Бо нельга быць упэўненым, што дзіця, калі яно застанецца адно дома, не вырашыць пагуляць з запалкамі альбо запальнічкай, не зацікавіцца электрычнай плітой ці чайнікам. Гульня з агнём прыводзіць не толькі да пажараў, але часта і да пагібелі ці траўматызму дзяцей. А меры па папярэджанні такіх вынікаў не складаныя:

*– сачыце за тым, як дзеці праводзяць вольны час, чым цікавяцца;*

*– па магчымасці не пакідайце дзяцей без нагляду, а лепш за ўсё адпраўце сваё дзіця ў школьны альбо загарадны аздараўляльны летнік;*

*– не пакідайце ў лёгкадаступным для дзяцей месцы запалкі і запальнічкі;*

*– сачыце за тым, каб не было доступу да лёгкіх на загаранне рэчываў.*

І варта памятаць, што калі пажар адбудзецца ў выніку недагляду за дзецьмі з прычыненнем каму-небудзь урону, то бацькі нясуць за гэта адказнасць у вызначаным законам парадку.

***Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ,***
***інспектар ЦРАНС***



# Успаміны пра вайну: гісторыі лёсаў

*Вайна – не прыгода.*
*Вайна – гэта хвароба.*
*А. дэ Сент-Экзюперы*

***Страшныя і суровыя ваенныя гады становяцца ўсё больш далёкімі. Сваім маўчаннем мы можам забіць мінулае. Ад вайны ніколі нельга чакаць дабра, бо гэта самае вялікае зло, якое ганьбуе чалавечы род. І бадай, самым жорсткім злачынствам вайны стаў генацыд яўрэйскага народа. Наш абавязак пакінуць у памяці наступных пакаленняў успаміны людзей, якія на ўласнай скуры зведалі голад, холад, нястачы і страты.***

**Яфім Аронавіч Генуховіч**, *вязень Радашковіцкага гета (1934 г.н.):*

«Мне было 7 гадкоў, калі пачалася вайна. Радашковічы, дзе нарадзіўся, аказаліся акупаванымі. Якраз тады я пачуў жудаснае слова «гета», спазнаў голад, холад і страх. Зразумеў, што давядзецца жыць у жудасных умовах, страціць здароўе, надзею на лепшае. З ліпеня 1941 года гета не было поўнасцю закрытым, можна было кантактаваць з мясцовымі жыхарамі. Але ў сакавіку 1942 года адбылася першая акцыя фашыстаў па знішчэнні яўрэяў. Людзей расстрэльвалі і спальвалі ў хлявах. Пасля гэтага рэшту сагналі ў адзін завулак, абгароджаны дротам. Гета стала поўнасцю ізаляваным ад знешняга свету. Цудам ацалеўшы, я нароўні з дарослымі працаваў да знясілення: цягаў каменне, пясок, бярвенне. Увечары, галодныя, мы вярталіся ў лагер смерці. Часам беларусы да дроту прыносілі ежу, а часам па дарозе на працу мы наладжвалі сувязь з мясцовымі. У сакавіку 1943 года фашысты правялі другую акцыю, але тае ж начы мне і маёй цётцы атрымалася збегчы. Беларуская сям'я схавала нас у хлеўшку. А потым доўгі час блукалі па лесе, шукалі партызан. І хутка патрапілі ў грамадзянскі лагер пры партызанскім атрадзе; там і сустрэлі вызваленне. Да яго з нашага гета дажылі толькі 12 чалавек, а было – 300».

**Эльфрыда Давыдаўна Аслезава**, *вязень Мінскага гета (1935 г.н.):*

«22 чэрвеня 1941 года быў светлы, цёплы дзень. Але апоўдні мы даведаліся, што прыйшла вайна. Мае бацькі ўсё роўна пайшлі на працу... Толькі 26 чэрвеня яны схамянуліся і вырашылі бегчы з Мінска. Далёка адысці не атрымалася. Нас дагналі ў дарозе і прымусілі вярнуцца. Праз колькі дзён выйшаў загад пасяліць усіх яўрэяў у гета на вуліцы Замкавай. Па ёй падчас першага пагрому 7 лістапада 1941 года ішла мяжа. На шчасце, наша палова вуліцы ў яго не ўвайшла. Але 20 лістапада гора кранула і нас. Пагром забраў жыццё дзеда. Загінуўшы, ён выратаваў усю сям'ю. Калі мы схаваліся ў склепе, дзядуля закрыў першую накрыўку, прыкрыў бульбай, а затым другую. І калі немцы ўварваліся, то не доўга думаючы стрэлілі яму ў галаву. Я і цяпер памятаю, як праз накрыўку капала яго кроў...

У гета было вельмі мала месца. Некалькі сем'яў жылі ў адным пакоі. Харчаваліся тады, калі атрымлівалася нешта вымяняць з рэчаў. У той час тата быў падпольшчыкам, слухаў радыё, перадаваў лістоўкі са звесткамі з фронту, якія пасля расклейвалі на вуліцах.

Пасля 20 лістапада нас выселілі на вуліцу Народную, дзе было яшчэ меней месца. 2 сакавіка адбыўся пагром, у якім сям'я страціла бабулю, другога дзядулю і шмат каго яшчэ з родных. Мне з маці атрымалася перажыць пагром, бо схаваліся ў дрывах, што ляжалі ў густым кусце маліны. А тата працаваў, гэта і дапамагло яму застацца жывым.

Бацькі зразумелі, што шанец выжыць вельмі малы; вырашылі аддаць мяне знаёмай жанчыне, якая працавала ўрачом. Я ж да яўрэйкі не надта падобная была: блакітныя вочы, светлыя доўгія валасы. Мой новы дом быў на Тыпаграфскай вуліцы, гаспадыню звалі Вольгай Міхайлаўнай Джордж. Яна была ў падполлі. Але ў 1943 годзе яго грамілі і «новую маці» арыштавалі. Апошнім разам жанчына прыйшла ў кватэру з афіцэрам, паспела даць мне паліто і выправіла да суседкі, у якой я пажыла некалькі тыдняў, бо тая мела сваё дзіця, а мяне адправіла ў дзіцячы дом. Там усіх хрысцілі і далі новыя імёны. Мне – Лена, а прозвішча я ўзяла Вольгі Міхайлаўны – Джордж.

Суседка старога месца жыхарства Стэфа вырашыла ўзяць мяне да сябе, каб яна мела магчымасць жыць у той кватэры паводле закону. Я доўга не згаджалася, бо тая была карлікам. Я не хацела мець такую «маці» нават на час. Але выхавацелькі ўгаварылі паехаць са Стэфай, бо ў дзіцячым доме заставацца было небяспечна. Немцы нас са Стэфай прагналі і з таго прытулку, а суровую зіму 1943–1944 года мы перажылі ў знаёмых. Калі на вуліцы пацяплела, нас прасілі сыйсці. Дзякуй Богу, перажылі гэты страшны перыяд у жыцці.

Яшчэ пасля 3 ліпеня 1944 года мы цэлы тыдзень сядзелі ў яме на агародзе. Хаваліся. Толькі 22 ліпеня мая маці змагла прыехаць у Мінск і знайшла мяне. Дасёння памятаю яе словы: «Худая мая, зялёная, валасы ўскудлачаныя...». Пасля вайны маці яшчэ доўга мяне адкормлівала, адмывала.

Тата таксама вярнуўся ў Мінск і знайшоў нас. Напэўна, нехта вышэйшы за нас, на нябёсах, падарыў самае галоўнае – жыццё».

***Запісала Ірына ЗАЯЦ, студэнтка факультэта журналістыкі БДУ***




# Цярновы вянок з целаў і дроту

***23 красавіка, у 61-ю гадавіну вызвалення вязняў лагера «Равенсбрук» у Германіі, у мемарыяльным комплексе, створаным на тэрыторыі гэтага колішняга жаночага канцэнтрацыйнага лагера, была ўрачыста адкрыта мемарыяльная дошка.***

Гэта першы памятны знак ад нашай краіны на тэрыторыі Германіі, які ўсталяваны ад імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. На цырымоніі адкрыцця прысутнічалі намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міхневіч, пасол Беларусі ў Германіі Уладзімір Скварцоў, прадстаўнік Беларускага Рэспубліканскага Фонду «Узаемапаразуменне і прымірэнне» Генадзь Касянкоў, аўтары мемарыяльнай дошкі скульптар Уладзімір Слабодчыкаў і архітэктар Ігар Марозаў, чатыры жанчыны – былыя вязні «Равенсбрука».



Памятная дошка ўяўляе сабой бронзавы вянок з пераплецення цел маладых жанчын і калючага дроту, у цэнтры якога на беларускай і нямецкай мовах змешчаны надпіс: «У памяць аб вязнях з Беларусі, сотні з якіх былі закатаваны ў канцэнтрацыйным лагеры «Равенсбрук», і там жа – подпіс: «Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь». Як распавялі аўтары, а працуюць яны тандэмам не першы раз, ідэя стварэння дошкі належала БРФ «Узаемапаразуменне і прымірэнне». Мемарыяльны праект бронзавага вянка, які наша дзяржава ўзяла пад свой патранаж, атрымаўся выразным і запамінальным, што адзначылі на адкрыцці ўсе выступоўцы. Бронзавы вянок (вага яго – чвэрць тоны) быў асвечаны праваслаўным святаром. Высокамастацкі мемарыяльны знак беларускіх творцаў выклікаў рэзананс. Аўтарам бескарыслівай памяткі загінулым і жывым колішнім вязням замовілі распрацаваць яшчэ некалькі праектаў мемарыяльных дошак на тэрыторыі былых лагераў Германіі.

Усталяванне беларускай мемарыяльнай дошкі ў Равенсбруку – адзін з праектаў, здзейсненых Міністэрствам замежных спраў і Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь ў 2006 годзе ў рамках Рэспубліканскай праграмы па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў.

***(Паводле газеты «Культура»)***

*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ПРАРОБАК** – высечаны ўчастак лесу, распрацаваны пад ворыва ці сенажаць.

**ПРАТЭСТАЦЫЯ** – скарга ці заява, з якой пакрыўджаны звяртаўся ў суд. Яна была як паводле ўжо ўчыненага, так і ў сувязі з пагрозай у будучым. Усе пратэстацыі заносіліся ў судовыя кнігі, і суд павінен быў пачаць разгляд справы – правесці агляд на месцы, засведчыць пабоі і шкоду, а то і затрымаць небяспечнага злачынцу. Меў свае правы і іншы бок. У выніку абодва маглі вырашыць спрэчку мірным шляхам.

**ПРЫВЕНАК** – доля маёмасці мужа, якую ён адпісваў жонцы ў дадатак да яе пасагу ў лік вена. Калі ж удава выходзіла замуж, яна страчвала права на прывенак ад першага мужа, і прывенак пераходзіў да яго спадчыннікаў.

**ПРЫВІЛЕІ** (з лац. асаблівы закон) – заканадаўчыя акты ў ВКЛ, Рэчы Паспалітай і інш. краінах, праз якія кіраўнікі дзяржаў надавалі або пацвярджалі асаблівыя правы заможнага і ўладнага люду, саслоўя, этнічна-рэлігійных груп, асоб і інш. Былі льготныя, дарчыя і ахоўныя. Земскага, гарадскога ды іншага ўзроўняў.

На Беларусі першыя земскія прывілеі выдадзены 20.02.1387 г. пра ільготы феадалам за пераход у каталіцызм (неўзабаве каталіцкае духавенства і яго маёнткі пачалі вызваляцца ад дзяржаўных павіннасцей і падаткаў). Гарадзельскі прывілей 1413 г. пашыраў правы феадалаў-каталікоў і абмяжоўваў правы праваслаўных феадалаў. Асабістую свабоду і недатыкальнасць шляхты забяспечваў прывілей 1434 г. Найбольш поўна правы і льготы феадалаў вызначаны ў прывілеі 1447 г. Своеасаблівай феадальнай Канстытуцыяй ВКЛ быў прывілей 1492 г. Самыя старажытныя прывілеі – Полацкі і Віцебскі. Калі пачала павялічвацца роля гарадоў у эканамічным жыцці, ім надаваліся асобныя прывілеі – магдэбургскае права. Да выданняў Статутаў ВКЛ прывілеі – асноўная крыніца пісанага права на Беларусі і ў Літве, адна з крыніц вывучэння феадальнага грамадства.

**ПРЫВІЛЕЙ 1447 г.** – заканадаўчы акт, выдадзены вялікім князем літоўскім Казімірам 02.05.1447 г. у Вільні. Юрыдычна замацоўваў палітычныя і эканамічныя правы феадалаў на зямельную ўласнасць і на суд над залежнымі ад іх насельнікамі, забараняў ім прымаць беглых «чужых» сялян. У ім была выкладзена рэгламентацыя парадку набыцця зямельных надзелаў, дзяржаўных пасад, ганаровых чыноў і званняў, абмяжоўвалася пранікненне ў ВКЛ польскіх феадалаў. Некаторыя нормы з яго былі ўключаны ў Статуты ВКЛ.

# У Нясвіжскім храме муз

Слова «музей» у перакладзе з грэчаскай мовы азначае храм муз. Чаго толькі не пабачыш у гісторыка-краязнаўчых скарбніцах, дзе можна пазнаёміцца з матэрыяльнымі і духоўнымі набыткамі народаў. Сучасныя музеі атрымалі развіццё ў XV–XVI стагоддзях.

Нясвіжскі музей адчыніў свае дзверы ў 1995 годзе. Яго будынак старадаўні, з чырвонай цэглы. Залы прасторныя, з аркамі. Матэрыялы размешчаны тэматычна: народны побыт і промыслы, старадаўні Нясвіж, Вялікая Айчынная вайна, радавод Радзівілаў і інш. У другой палове 1990-х гадоў Нясвіж наведаў адзін з апошніх прамых нашчадкаў славутага роду Антоній Радзівіл, які жыў у Англіі. Ён быў прыемна здзіўлены экспазіцыяй, пакінуў удзячны запіс у кнізе водгукаў.

А колькі іх было, знакамітых гасцей і наведвальнікаў, з Беларусі, Расіі, Польшчы і Літвы. Нездарма ў музеі праводзяцца навукова-практычныя канферэнцыі ў дні фестывалю «Музы Нясвіжа». Дырэктар Інэса Піваварчык разам з супрацоўнікамі ў пастаянным творчым пошуку, ствараюць новыя экспазіцыі.

Плённа супрацоўнічае музей з Мірскім мастацкім вучылішчам, а таксама, як расказала галоўны захавальнік фондаў Наталля Яўстрат, з факультэтам народнай культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, наладжвае кантакты з замежнымі калегамі. Галоўная мэта працы музея, зазначае Наталля Сціпанаўна, каб у яго ішлі людзі і ім было цікава. За год у музеі праводзіцца каля 300 экскурсій. А гэта нямала па раённых маштабах.

Нядаўна ўрачыста была адкрыта экспазіцыя «Кузня», дзе можна пабачыць кавальскія прылады працы. А яшчэ ў музеі пастаянна наладжваюцца выставы жывапісу.

Для ўсіх, хто жадае ведаць гісторыю Нясвіжа, знакамітага роду Радзівілаў, супрацоўнікі музея прафесійна і надзычай цікава праводзяць экскурсіі, прапануюць сувеніры, кнігі, буклеты.

***Раіса ХВІР, г. Нясвіж***
***На фота: куток Нясвіжа 1930-х гг.***





# Успамін пра таполю

***Наведваючы старажытны Нясвіж, можна гадзінамі любавацца не толькі помнікамі гісторыі і архітэктуры горада, але і прыгажосцю паркаў.***

За некалькі кіламетраў ад горада знаходзіцца парк Альба – былая летняя рэзідэнцыя князёў, закладзеная Радзівілам Сіроткам у XVI стагоддзі. А другі ў XIX стагоддзі вакол палаца насадзіла жонка Антонія Радзівіла – Марыя дэ Кастэлян. Саджанцы прывозілі з парку Берлінскага палаца, аб чым і сведчыць надпіс на памятным камені пры ўваходзе ў Стары парк – першы, які з'явіўся каля палаца ў 1878 годзе. Праз 25 гадоў у парку ўстанавілі яшчэ адзін камень з надпісам у гонар Марыі дэ Кастэлян з падзякай ад мужа Антонія Радзівіла за прыгожыя паркі, якія падняліся і выраслі вакол замка. Акрамя Старога парку, былі закладзены Японскі, Новы і Англійскі паркі. Цяпер плошча з азёрамі, па берагах якіх знаходзяцца паркі, складае больш за 100 га.

Захаваўся ў парку і трэці камень з такім надпісам: «На момант залажэння Старога парку Марыяй дэ Кастэлян на гэтым месцы расла толькі адна таполя». І сапраўды, было тут высачэзнае дрэва, 28 метраў, дыяметрам каля 2 метраў, з велізарным дуплом, у якім змяшчаліся некалькі чалавек, напалову высахлае, амаль без кары. Пражыло яно, як лічаць навукоўцы, 160–170 гадоў. Колькі ўсяго пабачыла гэта дрэва: заняпад і адраджэнне палаца князёў Радзівілаў у сярэдзіне XIX стагоддзя, шматлікіх гасцей палаца, якія прыязджалі адпачываць у парк і захапляцца яго прыгажосцю. Пабачыла і войны, якія не абмінулі Нясвіж, асабліва апошняя, калі ў 1941 годзе на паляне, дзе стаяла таполя, былі расстраляныя паўтары тысячы жыхароў горада, аб чым сведчыць надпіс на пліце. Ужо пасля вайны іх парэшткі былі перазахаваныя на гарадскіх могілках. Бачыла дрэва і пачатак аднаўлення паркаў і замка, экскурсантаў, турыстаў, якія за гады перабывалі каля дрэва тысячамі.



*Таполя: да гібелі...*



*...і паваленая*

Але час бяжыць. Таполя аджыла сваё. Стаміўшыся, легла на ўвесь рост пад націскам ураганнага ветру восенню 2004 года. Прайшло амаль два гады, як жыве Стары парк без свайго старажыла. Нічога, здаецца, не спынілася ў жыцці, такі закон прыроды. Але калі ідзеш прысадамі парка да паляны, дзе расло дрэва, неяк сумна, што не ўбачыш звыклы воку пейзаж – толькі агромністы пень. І камяні па баках. Як напамін пра Таполю.

***Ларыса МАКАРЭВІЧ***

## Наш каляндар

• 180 гадоў **СТАРЖЫНСКАМУ Віктару** (1826–1882) – мысліцелю, тэарэтыку, адзін час гродзенскаму прадвадзіцелю дваранства, які ў другой палове 1870-х гадоў добра адчуваў грамадскія настроі ў Паўночна-Заходнім краі царскай Расіі і пачаў выпрацоўваць для яго новы палітычны накірунак. У 1862 г. перадаў Аляксандру II свой праект уладкавання краю, якое бачыў у наданні беларусам і літоўцам нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў складзе Расійскай імперыі (самакіраванне, аднаўленне дзеяння Статута ВКЛ, Віленскага універсітэта, навучанне на роднай мове і інш.). Ажыццяўленне гэтага праекта магло прадухіліць паўстанне 1863–1864 гадоў – найперш на беларускіх і літоўскіх землях. Ды рэалізацыі гэтых планаў замінала марудлівасць і глухата да лёсу беларускага і іншых народаў царскага ўрада. Паўстанне, у сваю чаргу, дарэшта пахавала гэтыя дальнабачныя прапановы.

# Пачуцці — праз танец

*Ці кароткі, ці доўгі той век,*
*Але скокі любіць чалавек.*

***З фальклору***

Крыху разгубіўшыся ад усеагульнай увагі залы, дзяўчынка-канферансье дрыжачым ад хвалявання голасам-званочкам аб'явіла: «Выступае «Берагіня!». Танцавальны калектыў нашай школы». Зала ўскалыхнулася, прыязна ўсміхаючыся, гучна і дружна запляскала ў далоні, але радасныя апладысменты заглушыла не менш радасная мелодыя. Адзін і той жа матыў, але кожны па-свойму, вялі вясёлыя залівістыя гармонікі, рытмічна-радасна выдыхалі бубны ды дробна сыпалі шумавыя. Загучала любімая народам ва ўсе часы наша мядоцкая полька. На сцэну пара за параю вылятталі дзеці-танцоры, апранутыя ў някідкія, але вельмі прыгожыя народныя строі, характэрныя для нашай мясцовасці. Апратка, аздобленая ручной вышыўкай, ладна сядзела на дзіцячых вуглаватых фігурках. Прытупваючы, падскокваючы ў такт музыцы, танцоры ў нейкае імгненне, неяк незаўважна, аказалі ўздзеянне на тых, хто бачыў і чуў, што адбываецца на сцэне.

Былыя выпускнікі (25 гадоў таму яны скончылі гэту школу) не стрымаліся. Не змаўляючыся, пабраўшыся парамі, імгненна абраўшы для скокаў вольнае месца ў зале, з няменшым імпэтам, зрабіўшы паўпавароты ўлева-управа, панясліся ў віхуры танца. Зала, дараваўшы ім парушэнне глядацкага этыкету, дружна падтрымала воплескамі гэты парыў: толькі тыя, якія шмат разоў бачылі выступленне «Берагіні», маглі стрымаць свой пыл, каб не выскачыць танцаваць «Мядоцкую польку». Мае дзяўчаткі-выпускніцы (а ім ужо па 43), што скакалі польку ў залі, неаднаразова чулі пра «Берагіню», але бачыць яе выступленне ім яшчэ не даводзілася. Ды і як можна было ўстрымацца ад скокаў, калі знаёмая мелодыя абудзіла ўспамін пра ранейшыя вясковыя вячоркі, скінуўшы разам і цяжар усіх клопатаў, і цяжар (ужо) гадоў! Бо зараз у гарадской бясседзе хіба пачуеш мелодыю полькі, ад якой і ногі становяцца маладымі (куды ўцяклі артрозы, артрыты, варыкозы!), і сэрца пачынае біцца часта і гучна (без усялякіх там арытмій і тахікардый).

Трывала звязаны былі мелодыяй танцоры (на сцэне і ў зале) і музыкі: адзіны рух душы «схоплены» ў нейкі момант, які нёс у сабе адно эмацыянальнае адценне пачуцця. Недзе ў глыбіні маёй душы тоненька зазвінела струнка замілавання, любасці ад сугучнасці, сукупнасці танцораў – старэйшых (у залі) і малодшых (на сцэне). Малюнак у зале і на сцэне быў адзіным, напасрэдным, глыбока-праўдзівым (душа, пачуццё – у танцы!), ствараў стойкае ўражанне, даваў вобраз вялікай абагульняючай сілы. З асобных рысак дакладных рухаў «берагінцаў» складалася ўражанне, што бачыш яркую непаўторную карціну жыцця. Іх рухі, трапная і выразная мелодыя, што ўскалыхнула душу, абудзілі ўспаміны...

Той навучальны год я пачала не з першага верасня, а з'явілася на працу дзесьці напрыканцы кастрычніка. Прапрацаваўшы ў школе да таго часу больш дваццаці пяці гадоў, адчувала нават самыя нязначныя змены ў яе жыцці. І варта было не быць у школе нейкі час, каб любыя змены адчуваліся. Ужо з першага часу я заўважыла нейкую ўрачыстую таямнічасць, навізну, што адчувалася ў гутарках і паводзінах вучняў і іх настаўнікаў. Аказалася, што ў школе пачалося навучанне народнаму бытавому танцу. І кіруе гэтай цікавай і невядомай работай этнахарэограф Мікола Аляксеевіч Козенка, а дапамагае яму як музычны кіраўнік Антаніна Анатольеўна Абрамовіч. Мэту арганізатары ставілі складаную: арганізаваць працэс навучання, аднаўлення, пераемнасці і папулярызацыі традыцыйнай культуры Мядоцкага краю і праз гэты працэс выхоўваць сапраўднага патрыёта, носьбіта мясцовых мастацкіх традыцый, спрыяць развіццю лепшых якасцей чалавека.

У час авалодвання навыкамі харэаграфіі дзеці адначасова даследавалі свае радаводы, гісторыю вёсак, вывучалі мясцовыя танцавальныя і спеўныя традыцыі, імкнучыся захаваць у сабе гэты чароўны дар продкаў, не згубіць яго ў сваім далейшым жыцці, перадаць сваім нашчадкам.

У хуткім часе ў школе быў створаны мастацкі танцавальны гурток. Вучні майго (тады 8-га) класа ўдзельнічалі ў першым конкурсе выканаўцаў народнага бытавога танца. Гэта было восем танцавальных параў. Алёша Абрамовіч (зараз ужо супрацоўнік падатковай інспекцыі, студэнт прэстыжнай ВНУ г. Мінска) і Вольга Барысёнак (гадуе ўжо дачушку) былі пераможцамі ў сваёй узроставай групе. Як яны танчылі! Такога выканання народных танцаў мала хто памятаў нават з ліку старэнькіх бабуль, што прыйшлі паглядзець на скокі сваіх унукаў і нават праўнукаў.

Заўжды, калі я прысутнічала на выступленнях «Берагіні», заўважала мастацкі рост гурткоўцаў. Найболей мне падабаюцца ў выкананні гурта скокі з прыпеўкамі, што надзвычай лёгка адгукаюцца на ўсе з'явы жыцця. Танцамі ды песнямі дзеці вельмі чуйна паказвалі настрой чалавека, яго ўражанні, пачуцці. Было ў выкананых танцах шмат лірызму і нават пяшчоты. У танцах, заўважаю, дзеці перадаюць радасць і любасць. У сучаснай беларускай літаратурнай мове тэрміны «прыпеўка» і «частушка» ўжываюцца як сінанімічныя, раўназначныя, что і замацавана нарматыўнымі слоўнікамі акадэмічных выданняў апошняга часу. У народзе частушкі называюць па-рознаму: прыпеўкі, прыпевы, папеўкі, падскокі, тарадайкі, бранюшкі, таптушкі, забаўкі, скакухі, плясухі, круцёлкі, вытанкі і інш.

Выконваюць нашы дзеці прыпеўкі сольна, дуэтам, хорам як прыпеў да танца. У залежнасці ад танца выконваюцца пэўныя частушкі. Спяваюцца розныя частушкі пры скоках, у тым ліку і частушкі, что выконваюцца пры пэўных абставінах – у памяшканні, на вуліцы, пры пэўных гульнях. Заўважаю, што ў скоках з частушкамі дзеці бадзёрыя, энергічныя, жыццярадасныя, адчуваюць сваю сілу, любуюцца адно адным.

Аднойчы, вярнуўшыся з канцэрта «Берагіні» я пад уздзеяннем пачутага і ўбачанага, адшукала ў хатняй бібліятэцы некалькі кніг па фальклоры. І раней мне даводзілася час ад часу зазіраць у іх змест. Ды толькі зараз прагляд старонак меў зусім іншую мэту. Заўважыла, што бадай ні адна з праблем фалькларыстыкі не выклікала столькі меркаванняў, думак і гіпотэз, як праблема генезісу танца. Вылучаюцца дзве найбольш яркія лініі, два пытанні: калі і дзе (у якім асяроддзі) узніклі пэўныя танцы. На гэтыя пытанні імкнуцца адказаць члены «Берагіні», сустракаючыся з носьбітамі духоўнай спадчыны нашай мясцовасці: таму і надзялялася вялікая ўвага фальклорным вандроўкам па нашай мясцовасці, па Мядоцкім краі. У жывым асяроддзі сустракаюцца дзеці з таленавітымі выканаўцамі народных песень, танцаў, мясцовых абрадаў, звычаяў да іх. У сваіх выступленнях на фальклорных чытаннях вучні выяўлялі меркаванні, што танец – праўдзівае адлюстраванне жыцця і побыту вёскі, вынік творчасці вясковага насельніцтва, нашіх продкаў. Збіральнікі фальклорнага матэрыялу, вучні школы, самі назіралі бытаванне частушкава-танцавальнага спалучэння. Частыя экскурсіі, сустрэчы з носьбітамі мясцовых традыцый прывялі да думкі, што спалучэнне частушкі і танца – не проста суіснаванне двух розных фальклорных жанраў.

Частушкі і танцы ў выкананні «берагінцаў» звязаны паміж сабою тонкімі, але трывалымі ніцямі; яны бяруць свой пачатак у танцавальных доўгіх песнях-гульнях і кароценькіх песеньках, што бытавалі ў народзе вельмі даўно. Пра гэту сувязь сведчаць самі назвы, якія даў народ ім у нашай мясцовасці: прыпеўкі, скакухі і г.д. Частушка – не проста жанр, а жанр асобы, вытокі якога сыходзяць не толькі да танцавальных прыпевак. Сапраўдныя закончаныя ўзоры частушкавых форм знаходзім мы і ў гульнях-танцах і карагодах. Некаторыя элементы паэтыкі характэрныя таксама і для доўгіх танцавальных песень. Песенькі-чатырохрадкоўі ў выступленнях «Берагіні» гучаць пры выкананні каляндарна-абрадавых мерапрыемстваў (Каляды, Купалле, Гуканне вясны і г.д.). Карагоды, танцы рознай тэматыкі мелі сваё прызначенне і выконвалі сваю функцыю разам з песнямі, доўгімі і кароткімі. Мне даводзілася чуць, як дзеці выконвалі песенькі і вадзілі карагоды на Купалле. Гэтыя карагоды прымяркоўваліся да асобых сцэн купальскага абраду. Чатырохрадкоўі ў выкананні дзяцей успыхвалі, як іскаркі, падкрэсліваючы тыя ці іншыя звенні абрадавага ланцуга купальскага святкавання.

...Успаміны і разважанні скончаны. Гучыць музыка на сцэне – радасць, спакой і прыемная цеплыня ад дотыку да важнага, чыстага, светлага. Гэта вялікая справа, справа нацыянальнага гонару.

Пажадаем «Берагіні» і надалей раскрываць свой талент, садзейнічаць далучэнню да традыцыйнага народнага мастацтва ўсіх беларусаў.

***Галіна ПАЛОНІК,***
***в. Старая Мётча***
***Барысаўскага раёна***

***Праўда тое ці не, але палешукі гавораць, што калісьці на месцы Бабровіцкага возера знаходзілася царква. За даўнім часам у гэтым краі былі татары і чынілі вялікія здзекі над мясцовымі жыхарамі. Сабраліся тады людзі ў царкве і пачалі шчыра, са слязамі, маліцца Богу. Не змагла зямля чуць тое гора і паглынула царкву. А на тым месцы ўтварылася возера. Атрымала ж яно назву ад баброў. Тых звяроў ахоўваў адзін чалавек, але татары яго забілі. Вось і пачалі бабры плакаць па ім. Убачыўшы тое, тамтэйшыя сяляне назвалі сваю вёску Бабровічы, а возера Бабровіцкім.***

# Пральюцца слёзы закінутай вёскі...



## На Стаўбавой дарожцы...

Цяпер гэтай лясной дарогай зрэдку хто карыстаецца. Звер і той куды ахвотней і спрытней будзе прабірацца праз гушчэчу дрэў і кустоўя, чым бегчы па глыбокім пяску. Людзі ж да вёскі Бабровічы ўжо даўно дабіраюцца ў асноўным праз Целяханы і Выганашчы. Там і дарога больш роўная, з пакрыццём, ды і аўтобусы ходзяць. А тут... Тут толькі ямы, пясок ды пыл. Нават і не верыцца, што раней, калі Івацэвіцкі край быў пад Польшчай, дарога ад Святой Волі да Бабровіч была выкладзена тоўстымі прасмоленымі сасновымі бярвеннямі, пакрытымі зверху гладзенькім пясочкам.

І ўсё ж куды прыемней ісці менавіта па гэтай Стаўбавой, як называюць яе мясцовыя жыхары, дарозе (уздоўж яе цягнуцца электрычныя слупы-«стаўбы» – адзіная прыкмета цывілізацыі). Тут ведаеш, што няспешную гульню ветру ў кронах дрэў, ціхае шапаценне лістоты не патурбуе раптоўны шум машыны альбо аўтобуса. Тут нішто не нагадае табе пра жыццёвыя непрыемнасці, няўдачы, якія засталіся далёка-далёка, за гэтай бясконцасцю дрэў і блакітам неба...

А яшчэ тут, за 5 кіламетраў ад Святой Волі, на палове шляху да Бабровіч, ва ўрочышчы Крашэнка, на месцы былога хутара стаіць старая высокая таполя і бліндаж – напамін пра сумную гісторыю тутэйшых мясцін.

## Як мае слёзанькі, пральецца ваша кроў

Давялося крочыць амаль 2 гадзіны, пакуль раптоўна, зусім неспадзявана з'явілася вёска Бабровічы – нібы пільнавала і ў апошні момант выйшла насустрач з-за дрэў. Прывітаўшыся самотнасцю пачарнелых ад старасці хляўоў ды гумнаў, амаль усіх крытых чаротам, яна працягнула свой адпачынак. Прытуліўшыся агародамі да густога лесу і балот, вёска драмала, разамлелая ад дзённай гарачыні.

Ніводнага чалавека: ні ў дварах, ні на вуліцы. Толькі ля самага лесу пасвіўся конь. Пабачыўшы незнаёмца, узняў галаву, выпрастаўся і пачаў уважліва сачыць за маімі рухамі. Гэтаксама, як і вясковыя сабакі, якія дружным брэхам сустракалі ўсе мае спробы накіравацца да якой-небудзь хаты.

– Добры дзень, – нарэшце звяртаюся да жанчыны. – Кажуць, каля вашых Бабровіч была раней яшчэ адна вёска – Тупічыцы.

– О, дык не адна, – гаворыць Соф'я Пракопаўна Чырко, 1935 г.н. – Было шчэ В'ядо. Цяпер іх няма. Скэлькэ ўжэ часу прайшло, як немец іх спаліў. І нашае сяло таксама. Ну, а мы недобайкі (тыя, каго немец недабіў) жывыя засталіся. У нас тут і цэркаў была. Ды яе, кажуць, партызаны спалілі. На тым месцы цяпер крыж стаіць. А вы прайдзіце далей, там болей раскажуць.

І сапраўды, драўляны крыж стаіць у самым цэнтры вёскі. Непадалёк, пад высокімі дрэвамі – абеліск, пастаўлены у памяць пра загінулых летам 1942 года мясцовых жыхароў. Цікава, як сталася так, што саму вёску спалілі немцы, а царкву – партызаны? Вось што расказалі жыхары Бабровіч:

– А так і атрымалася. Немцы спалілі сяло, але царкву пакінулі і рабілі там засады на партызан. Вось тыя і знішчылі царкву. Раней пра гэта не казалі, а цяпер нібыта можна...

– Дык чаму ж немцы спалілі вёску? Што за прычына? – пытаю ў людзей.

– Хто яго ведае. Але гавораць, можа, тое і няпраўда, што з-за уніяцкага папа. У нашай жа царкве служылі два папы: праваслаўны і уніяцкі. Аднаго разу праваслаўны падгаварыў людзей, каб тыя не пусцілі уніяцкага на службу. Казалі, што той уніяцкі поп нават упіраўся з усяе сілы ў дзверы, калі яго выцягвалі з царквы за адзенне. Тады ён сказаў, што, як разліецца мае слёзы, так разальецца ваша кроў. І пайшоў недзе. А праз некалькі дзён з'явіліся немцы...

Успамінае 74-гадовы Рыгор Аляксандравіч Чырко:

– Спачатку ва ўрочышчы Чысты Луг, за 2 кіламетры ад сяла, расстралялі акціў і яўрэяў. А ўжо потым усіх мужчын сагналі ў клуню (гэто ў канцы сяла, цяпер там растуць бярозы) і кінулі туды 2 гранаты. Клуня загарэлася. Мужчыны выламалі дзверы, але немцы секанулі па іх з кулямёта. Там мой бацька загінуў. А потым немцы баб і дзяцей па вёсцы выбівалі. Тады хто дзе хаваўся, але ў асноўным у разорах на агародзе. Добра, што ўжо бульба вырасла. А потым хаты і хлявы палілі. Пасля вайны дзе якія чалавечыя косці валяліся, мы іх пазбіралі і пахавалі на могліцах. Цяпер там помнік стаіць.



І хоць шмат гадоў мінула з часоў вайны, памяць пра тое ліхалецце жыве сярод палешукоў. Слухаючы страшныя аповяды, з горыччу ў голасе, са слязьмі, разумееш тых вяскоўцаў, што гавораць:

– Я тых немцаў і цяпер ненавіджу. Толькі ўспомню, як яны ездзілі па вёсцы на матацыклах з аўтаматамі, як тыкалі штыкамі ў сена, шукаючы нашых людзей, як палілі хаты...

Разам з Бабровічамі былі знішчаны і іншыя вёскі, што знаходзіліся ля возера – Тупічыцы, Вяда. Аднак яны не адрадзіліся. «Недобэйкаў» там амаль не засталося. Жыхары Бабровіч расказалі, што ў Тупічыцах і Вядзе людзей немцы сагналі на горку, на жоўты пясочак, і адтуль па 10 чалавек адводзілі ў балота Кустоўе і там расстрэльвалі.

– Спачатку пасля вайны расстраляных ніхто не закопваў, – узгадвае Вера Трафімаўна Швед, 1936 г.н. – Я сама памятаю, як яшчэ ў 1953 годзе мы грэблі там сена, то сустракалі трупы, косці, адзенне. Так яны там і ляжалі. Іх лісы парасцягвалі. Пасвілі там і кароў. Яны вытапталі тыя могліцы.

З гісторыі вядома, што масавыя карныя аперацыі на тэрыторыі Беларусі немцы ўзмацнілі з пачатку 1943 года. Чаму ж гэтыя вёскі былі спалены летам 1942? Можа, і сапраўды раліліся кроў палешукоў, бо праліліся слёзы уніяцкага святара?.. Так гэта ці не, але людзі гавораць, што і Тупічыцы, і Вяда адносіліся да прыходу Бабровіцкай царквы. А таго святара вяскоўцы бачылі ў той жахлівы дзень у Бабровічах... у форме нямецкага афіцэра.

## Была красота, чыстота...

Вёска Бабровічы, як і яе памерлыя сёстры – Тупічыцы, Вяда заўсёды знаходзілася ў сапраўднай палескай глушы. І цяпер ад Бабровіч да бліжэйшай вёскі не менш за 10 кіламетраў. Чым вабіў людзей гэты край? Чаму яны засналі свае паселішчы менавіта тут, на беразе Бабровіцкага возера, сярод густога лесу і амаль непраходных балот?

– Калісьці ў тыя балоты, дзе былі В'ядо і Тупічыцы ссылалі вінаватых, гэтак, як і ў Сібір. Яны і заснавалі там свае паселішчы. Тыя людзі нават былі не такія, як мы. Нейкія рыжыя і чорныя, круглоліцыя. Але жылі мы з імі заўсёды дружна, – узгадвае Вера Трафімаўна.

А вось што расказала Аляксандра Андронаўна Дзячок, 1928 г.н.:

– Іхнія дзяўчаты выходзілі замуж за нашых хлопцаў, а нашыя – за іхніх. А ў каго і радня там была. Ездзілі, дапамагалі роботу робіці – грэблі сено, садзілі бульбу. Бавала там, як заспяваюць песні, то аж тут чутна. Ой, раней жа як хараша было. У лесе пры Польшчы... красота, чыстота. Хадзілі на працу ў лес, на шарварок. Плацілі за дзень працы дзяўчатам па 1 злотаму, хлопцам – па 2. Гэто былі грошы! За 2 злотых можна было купіць пуд мукі. А каб атрымаць квіток на збор ягад і грыбоў, то таксамам хадзілі працаваць у лес – 1 дзень. А вось на возеры, якое выкупіў купэц-жыд, нельга было лавіць рыбу, толькі зімой дазвалялася на адну блясну. Раней да В'ядо ад Бабровіч была пракладзена грэбля. Цяпер там усё зарасло, не пройдзеш.

А яшчэ пры Польшчы, калі дзікі вытоптвалі пасевы бульбы, пан аплочваў патраву сялянам, бо звяры, як і лясы, былі ягонай уласнасцю. Цяпер гэтага няма. Вяскоўцам самім даводзіцца бараніцца ад дзікоў, якія вядуць сябе настолькі нахабна, што нават у самой вёсцы, дзе бліжэй да лесу, парылі зямлю.

– Каб нам хто даў стрэльбу, дык мы б самі ад іх адбіваліся, а то ж спасу няма, – скардзяцца вяскоўцы.

*Бабровічы паціху дажываюць свой век... Старыя жыхары з неахвотай і сумам гавораць пра будучыню вёскі. Куды хутчэй яны раскажуць пра мінулае, пра жыццё пад Польшчай, пра ваеннае ліхалецце, пра складаныя пасляваенныя гады, калі даводзілася жыць у зямлянках, з цяжкасцямі, але наладжваць новае жыццё. «У нас у 1970-я гады была 8-гадовая школа, у якой навучалася 120 дзяцей», – гавораць вяскоўцы. Цяпер дзіцячыя галасы ў Бабровічах можна пачуць хіба што толькі летам, калі з гарадоў да сваіх бабуль і дзядуль прыязджаюць унукі. Заканчваецца лета – і вёска зноў пусцее. А што будзе праз пэўны час? Бабулі ж і дзядулі не вечныя...*

*Для каго ж будаваліся гэтыя драўляныя хаты на месцы зямлянак?.. Для чужых людзей, якія амаль за бясцэнак купляюць закінутыя сядзібы і прыязджаюць сюды жыць на лета, адпачываць ад бессэнсоўнасці гарадской мітусні?.. Ці ўсё ж такі будаваліся хаты для сваіх дзяцей, з надзеяй, што яны будуць жыць, працаваць, працягваць род на зямлі дзядоў і прадзедаў, а немаведама дзе – у гарадах?!.*

**Ігар ГРЭЧКА,**
**Фота аўтара**



*Цішыня і спакой ля маўклівай сядзібы*



*Драўляны крыж на месцы згарэлай царквы*





# Ступіў свой першы крок на Случчыне

*Ёсць на зямлі такі куток,*
*З якім навек я злучаны,*
*Адкуль ступіў*
*свой першы крок –*
*Мая радзіма – Случчына.*
**Васіль Вітка**

***Нядаўна споўнілася 95 гадоў вядомаму беларускаму дзіцячаму пісьменніку Васілю Вітку (Цімоху Васільевічу Крысько).***

***На слуцкай зямлі сфармаваўся Васіль Вітка як паэт, як асоба. Прырода, людзі, легенды, паданні Случчыны, яе самабытнасць, багатая мова спрыялі развіццю яго таленту, мастацкага светабачання, густу.***

Паэт заўсёды быў удзячны сваёй радзіме, той маленькай вёсачцы Еўлічы, у якой у 1911 г. ён нарадзіўся. Абставіны склаліся так, што праз год пасля нараджэння Цімох разам з сям'ёй апынуўся ў Сібіры, у горадзе Омску. Там сям'я пражыла шэсць гадоў. Пасля рэвалюцыі маці з дзецьмі вярнулася ў родныя Еўлічы. Неўзабаве пасля дэмабілізацыі прыехаў туды і бацька паэта Васіль Максімавіч, які быў адным з самых пісьменных мужчын у вёсцы.

Пасля сямігодкі Цімох паступіў у слуцкую прафтэхнічную школу, якую скончыў у 1928 г. Затым працаваў слесарам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, у заводской шматтыражцы, у рэдакцыі абласных, потым рэспубліканскіх газет. У час Вялікай Айчыннай вайны Васіль Вітка – рэдактар масавых выданняў для акупаваных раёнаў Беларусі, працаваў у папулярных сатырычных газетах ваеннага часу «Партызанская дубінка», «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Суровы ваенны час прынёс вялікае гора: у студзені 1943 г. у слуцкай турме быў закатаваны бацька Цімоха Васільевіча, былы старшыня калгаса.



У гады вайны Цімох Крысько для публікацыі твораў узяў сабе псеўданім Васіль Вітка. На працягу 1944–1947 гг. быў адказным сакратаром, потым намеснікам рэдактара часопіса «Беларусь». З 1948 г. Васіль Вітка – намеснік рэдактара, потым галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» (1948–1957). З дня стварэння дзіцячага часопіса «Вясёлка» быў яго галоўным рэдактарам (1957–1974).

Першы свой верш «Пры гасцінцы хіліліся вербы» паэт надрукаваў у 1928 г. Аднак першы зборнік вершаў «Гартаванне» быў выдадзены толькі ў 1944 г. у Маскве, а першая кніжка для дзяцей з'явілася ў 1948 г. Гэта была казка «Вавёрчына гора».

Васіль Вітка выдаў болей 25 кніжак. Гэта зборнікі паэзіі «Поўдзень», «Вернасць», «Ружа і штык», «Вышыні святла», «Случчына» і інш., паэтычныя кнігі для дзяцей «Буслінае лета», «Казка пра Цара Зубра», «Дударык» і інш.

Паэзія Васіля Віткі для дзяцей – гэта свет хараства, чарадзейства, незвычайных прыгод, гармоніі гукаў і фарбаў. Ён быў улёбёны ва ўсё беларускае, тонка адчуваў хараство роднай мовы і заклікаў любіць яе.

Памёр Васіль Вітка 5 ліпеня 1996 г. Але кажуць, што ў сапраўдных паэтаў даты смерці няма. І гэта так. Творамі Васіля Віткі будзе захапляцца яшчэ не адно пакаленне.

***Случчына шануе памяць пра мудрага, таленавітага пісьменніка, педагога, чалавека. Яго творы будуць знаходзіць водгук у чытацкіх сэрцах.***

***Г. САСІНОВІЧ,***
***загадчыца бібліятэкі-філіяла № 1 Слуцкай раённай ЦБС***

# Кукавала шэрая зязюля



***Зязюля, напэўна, часцей, чым іншая якая птушка, згадваецца ў гістарычных і фальклорных зборніках. Чаму менавіта яна, шэрая, непрыбавная, так прыцягвала ды і прыцягвае да сябе ўвагу людзей? Чаму з ёю звязаны шматлікія легенды і паданні, розныя павер'і і прадказанні? Паспрабуем адказаць на гэтыя пытанні.***

Па народным павер'і, зязюля кукуе толькі да Яна, а пасля мала каму даводзілася пачуць яе. Але калі ў летняй цішы гучыць голас гэтай птушкі, ён прымушае кожнага з нас супыніцца, прыслухацца, ён быццам бы падказвае: «Пастой, падарожнік, не спяшайся, палічы свае гады, якія табе адвяла прадвесніца лёсу». Шэрая невялічкая птушка ў вуснай народнай творчасці – сапраўдная варажбітка, якая па-свойму размяркоўвае гады жыцця для кожнага чалавека. Патрыярхальныя людзі верылі ў яе прароцтвы, і нікуды не схаваешся ад свайго лёсу, бо зязюля, па іх наіўным меркаванні, знаходзілася ў цеснай сувязі з усемагутнымі сіламі, якім старажытны чалавек не мог сябе супрацьпаставіць.

Народная памяць захавала некалькі дзесяткаў вусна-паэтычных твораў, якія па-рознаму тлумачаць узнікненне зязюлі, так мовіць, яе «радаслоўную». Найбольш папулярны варыянт вось гэты («Зязюля і Кук»):

«У птушак быў свой цар – Кук. Лятаў ён па лесе, разганяў ваўкоў і лісіц, змей – усіх, хто нападаў на птушынае царства. Аднойчы Кук не вярнуўся ў сваё гняздо. Зажурыліся ўсе лясныя птушкі:

– Хто ж нас цяпер абароніць?

Сталі раіцца. Што рабіць? Трэба ісці шукаць свайго заступніка. А хто пойдзе? У кожнага – справа: той гняздо ўе, той яечкі наседжвае, той птушанят гадуе; адзін – стары, другі – малы... Рашылі яны адправіць зязюлю – у яе дзяцей няма і гнязда няма. Спалохалася зязюля, што трэба ісці ў вялікую дарогу, і знесла яечка.

– Куды ж я яго дзену? – гаворыць зязюля.

– Пакладзі сваё яечка ў любое гняздо! – адказвалі ёй птушкі.

– А хто ж яго будзе выседжваць?

– Каму пакладзеш, той і глядзець будзе!

– Хто будзе сваіх гадаваць, той і тваё дагледзіць.

І паляцела зязюля шукаць Кука. Праляціць трохі, сядзе на галінку і кліча:

– Ку-ку!

Праляціць – зноў кліча».

А вось што пісаў наконт гэтай птушкі А.М. Афанасьеў: «Паводле чэшскага павер'я, калі зязюля закукуе да Іванава дня, то трэба чакаць неўраджаю; сваім крыкам яна прагаяне град, буры, дарагавізну. Чэхі звяртаюцца да яе з запытаннем: «Пачым будзеш прадаваць жыта, ячмень, авёс?» – і, гледзячы на тое, колькі раз пракукуе, мяркуюць аб будучых цэнах на хлеб. Вясной, пачуўшы першы раз зязюлю, людзі спяшаюцца пазваніць грашыма – каб яны не пераводзіліся да наступнага года. Калі ж на той момант не будзе ў кішэні грошай – гэта сведчыць пра тое, што іх не будзе і на працягу цэлага года... Тыя ж самыя прыкметы існавалі ў сербаў, румынаў і немцаў».

Параўнаем усё гэта з беларускімі прыказкамі і прымаўкамі: «Як зязюля скажа «ку-ку», тады сей на руку», «На Вялікдзень зязюля першы раз кукуе», «Кукушка кукуе ад Вялікадня да Пятра, а пасля Пятра – ні дня». Вывад адзіны: беларусы таксама верылі ў прароцтвы зязюлі.

Існавалі нават прыкметы, звязаныя з гэтай птушкай: «Калі зязюля часта і падоўгу кукуе, то будзе добрае надвор'е, паляўнічым і рыбакам пашанцуе. Калі рэдка, то надвор'е будзе дрэннае, а ў лесе ці на рэчцы ўвогуле няма чаго рабіць»; «Калі зязюля лятае над хатамі і выплёўвае штосьці чырвонае (на лісточе звычайна выразна відаць. – А. Н.), тады, лічылі сяляне, будзе мяса ў хатах».

У некаторых мясцінах паданні ці легенды пра зязюлю «прывязваюць» да мясцовых назваў населеных пунктаў, рэчак і г.д.

Вось такі вусна-паэтычны твор бытуе на Магілёўшчыне («Кукаванка»):

«Даўным-даўно гэта было, калі вёска Пярэсава яшчэ не існавала, а на яе месцы стаялі толькі дзве хаты. Адна з іх была вялікая, светлая. У ёй багатая ўдава Ксенія жыла з двума сынамі-блізнятамі, якім па семнаццаць год споўнілася. А ў другой, цеснай і цёмнай, немачны стары жыў. Рыбалкай ды дарамі лесу жывіўся. Мела ўдава некалькі лодак і кіравала рачной перапраўай. Адсюль, відаць, і назва сягонняшняй вёскі Пярэсава пайшла, ад слова «перасовы». За грошы перапраўляла Ксенія падарожнікаў з левага на правы бераг і наадварот. А перавозчыкамі яе сыны – Ясь ды Стась былі. Калі-нікалі і дзядок займаўся гэтай справай.

Аднойчы восенню моцная навальніца ў той мясцовасці пачалася. Вецер узняўся страшэнны. Увесь дзень і ўсю ноч дождж як з вядра ліў. Цемра жудасная наступіла. Вось у такую непагадзь сярод ночы нехта моцна загрукаў у браму.

– Хто там? – выйшаўшы на ганак, спыталася Ксенія.

– Адчыняй хутчэй вароты, фельд'егера царскага неабходна тэрмінова на той бераг перавезці! – адказаў грубы голас.

Калі Ксенія ўпусціла ў хату гасцей няпрошаных, то ўбачыла, што ва ўсіх мужчын пад доўгімі плашчамі вайсковая вопратка ўгадвалася.

– Не пушчу я дзетак у такую непагадзь на раку! Патонуць яны! Бач, як хвалі б'юць! – сказала ўдава.

– Ты абавязана перапраўляць зараз жа трох з нас! А мы табе добра за гэта заплацім! – заявіў адзін з незнаёмцаў і тут жа высыпаў на стол жменю залатых манет.

Можа, адчуваючы, што ваенныя не адчэпяцца ад яе, а можа, спакусіўшыся бляскам золата, удава разбудзіла сыноў, а затым і старога.

– Утрох паплывяце, усё ж лягчэй будзе, а дзед ваду з лодкі вычэрпваць стане. Самую вялікую лодку бярыце! – сказала Ксенія.

Хутка лодка адышла ад берага. Маці з высокай кручы прыслухоўвалася і ўглядалася ў начную цемру. Раптам, калі лодка была літаральна ў некалькіх метрах ад супрацьлеглага берага, шалёна бліснула маланка. У яе святле Ксенія ўбачыла, як вялізная хваля накрыла човен...

...Дарэмна ўдава клікала сваіх блізнят, бегаючы па беразе ракі. Ніхто не адклікнуўся на яе жудасныя крыкі.

На досвітку ніжэй па цячэнні Бярэзіны знайшлі людзі перакуленую лодку і болей нічога. Увесь дзень галасіла і клікала сыноў сваіх удава. Ды раптам рукі яе ў крылы ператварыліся, а сама яна – у зязюлю. І паляцела птушкай удалечынь ад роднай хаты.

У народзе месца гэтае Кукаванкай сталі зваць, а ўжо потым і на вёску назва перайшла.

Такім чынам, у вёскі дзве назвы – Пярэсава і Кукаванка.

– Чуеце «Ку-ку, ку-ку, ку-ку»? Гэта не зязюля кукуе, гэта ўдава Ксенія сваіх сыночкаў загінулых кліча» (в. Пярэсава, Бабруйскі раён).

Як бачым, у гэтай легендзе зязюлю называюць «кукаванкай». Такая назва існуе і ў некаторых іншых мясцінах Беларусі. Сустракаюцца і іншыя:

*А ў тым цёмным лесе*
*Кукалечка кука:*
*– Ку-ку, ку-ку –*
*Кукалечка кука.*

*(в. Рудня Шлягіна, Веткаўскі раён)*

А ў вершы Рыгора Барадуліна «Шчодры голас твой...» зязюля – «кукалка»:

*Шчодры голас твой*
*Чуў паўсюль я,*
*Баравін ушацкіх*
*Зязюля.*
*Што ж ты сёлета*
*Зычыш мала*
*У дзень нараджэння мамы?..*
*Мама звала цябе*
*Кукалка...*
*Мякка сцелеш ты,*
*Спаць ёй мулка...*

Але гэтую невялічкую птушку лічылі не толькі прадвесніцай шчасця, блізкай і цёплай пары, даўгалецця. У некаторых выпадках яна магла прадказваць трагічныя падзеі. Вось што пра гэта піша Ул. Васілевіч: «...да ліку павер'яў, якія нібыта прадказвалі набліжэнне смерці, адносіліся між іншым і наступныя: калі сабака вые ўгору, калі зязюля кукуе на страсе, калі курыца запяе пеўнем і г.д.».

Верш Максіма Багдановіча прасякнуты смуткам і жалем, прадчуваннем смерці:

*Не кувай ты, шэрая зязюля,*
*Сумным гукам у бары;*
*Мо, і скажаш, што я жыці буду,*
*Але лепш не гавары...*

Патрэбна адзначыць, што ў літаратурных творах сустракаецца вобразсімвал зязюлі, але тут ён ужо пераасэнсаваны, напоўнены новым, індывідуальна-аўтарскім гучаннем. Так, напрыклад, у славутай паэме Якуба Коласа «Сымонмузыка» кукаваннем зязюлі, якая ў народзе лічылася сімвалам нялёгкай жаночай долі, заканчваецца аптымістычная фінальная сцэна. Паэт пераасэнсаваў гэты вобраз, напоўніў яго жыццесцвярджальным гучаннем – зязюля прарочыць героям даўгалецце, надзею на лепшае.

***Сёння мы ведаем, што ўсё гэта – фантазія нашых далёкіх продкаў, адбітак іх пакланення стыхійным сілам прыроды, што гэта адгалоскі той старажытнай табуацыі жывёл і птушак, якой калісьці надавалася магічнае значэнне. І тым не меней амаль кожны з нас, пачуўшы голас зязюлі, па-ранейшаму стрымлівае хаду і пачынае ўслухоўвацца, а магчыма, таксама ўспамінае сваіх продкаў ці міжволі пачынае думаць пра няведанае будучае.***

*Паводле кнігі*
*Аляксея* ***НЕНАДАЎЦА***
***«Свята таямнічага вогнішча»***

Віктар ШНІП

### З цыкла БАЛАДЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА

## Балада Міндоўга

## (1195–1263)

*...Як ланцугі, звіняць касцёльныя званы*
*І вестка, што не будзе болей тут вайны,*
*Нібыта ў вочы пыл ляціць, ляціць крылата.*
*Гуляй хто можа! – у Навагародку свята –*
*Каронай каралеўскай князь каранаваны,*
*І ўжо Еўропай родны край і мы прызнаны,*
*Ды крыжакам усё ахвота біцца з намі*
*І будзем мы за волю біцца з крыжакамі*
*І на магілах нашых вырасце палын,*
*Як воі вырастаюць, каб зноў стаць травою.*
*Ты – князь Міндоўг і ты, як родны край, адзін*
*І сёння ты з каронай цяжка-залатою,*
*Але часова ўсё, як дзень, як ноч, зіма,*
*Як вера, ад якой ты заўтра адрачэшся,*
*Бо ёсць твой шлях, а іншага ў цябе – няма,*
*І на шляху ёсць здрада, над якой смяешся*
*Цяпер, хоць заўтра – смерць.*
*Ты не баішся смерці.*

*І пройдзе час...*
*Як з белага чырвонае не сцерці,*
*Не знішчыць нас!*



# Сярод поля, сярод лесу

### Апавяданне-імправізацыя

Генрых ДАЛІДОВІЧ

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 18–20)*

Чамусьці якраз у позняю восень, як і ранняй вясной («дачакаўся маю, ажно нясуць да гаю»), часта памiралі старыя людзі і дзеці, і тады Геніку станавілася вусцішна ад таго ўсведамлення па аповедах даўнейшых, што ўсё-такі ёсць яна – гэтая Старая з касой. Праўда, як сказаў яму дзядзька Пятро, яна, Смерць – не гнюсная злыбеда-страшыдла з тупой касой, а файная маладзічка. Такой яна прымроілася яму, калі ён быў цяжка паранены, сцякаў крывёю, ужо не помніў сябе, а яна нахілілася над ім і мякка сказала: «Не, я цябе яшчэ не забяру. Жыві. Я прыбяру іншых...». А каго яна, Смерць, звядзе з гэтага свету, не сказала нават і самаму найлепшаму на свеце людзей дзядзьку Пятру... «Тое нам не трэба ведаць, – мудрагеліў ён. – Не рабі зла, дык смерць і не хутка прыйдзе». – «Хоць, – і ўздыхаў, – бывае, смерць зводзіць з гэтага свету зусім не таго... Нягодныя застаюцца, а сумленныя гінуць...».

Восень, маючы моц ад вясны і лета, не хутка здавалася: зляцелі многія птушкі, жоўта-чырвонае лісце апала, паступова пачарнела, абвадзянела, падгніло на зямлі, аціхла поле, аглушэў лес, пачарнела вада ў блізкай рэчцы, Нёмане, усё больш сілы набірае непагадзь, і вось першыя ўжо камякі бухмастага снегу (як Геніку хацелася якраз па гэтым першым снезе пабегаць босаму! Якраз – басаног, хоць за гэта маглі быць грозныя воклiч і лупцоўка рушніком па плячах! Не ўтрымацца было ад нейкай простай, але і не зразумелай дзёрзкасці і радасці!). «Не, – казала маці, – зімы яшчэ не будзе. Мо і дзён сорак. Зіма яшчэ сырая, неастылая.» І, сапраўды, як запомнілася Геніку, у такія часіны зіма аснежвалася, суровела позна, нават за Калядамі. А то і пазней. Зіма (дзед Зюзя – стары ў белым кажуху, які лятае над зямлёй і сыпле з рукаву белы пух) прыходзіла, набірала моц нечакана. І заўсёды ў Янкавінах зімавалася па-рознаму. З зацяжнымі непрыемнымі, нудотнымі вадаспадкамі, стыллю ці, наадварот, з раннім суровым марозам, вялікім (ажно па стрэхі хат) снегам і мяцеліцамі.

### Зіма

О, яе Вялікасць Зіма! Гэта – не толькі на хутары, дзе жыў Генік, але і ва ўсім свеце, штосьці незвычайнае, нават непаўторнае!

Як Генік добра помніць, на хутары вельмі чакалі маразоў і снегу – каб акрылася, адпачыла вораная і доўга нечапаная (папар) зямля, каб азімлівалася, каб пачалі свежаваць свіней. Канечне, гарадскі насельнік, бадай, гэтага як след не ўявіць, што гэта такое – свежаванне. Каб нечага трагічнага яны, дзеці, не зведалі, вепручка бацька калоў зусім рана, калі яны яшчэ бесклапотна спалі, а маці, палячы ў печы, затуляла вушы пальцамі. Каб нічога не чуць. А вось пасля, калі тая істота, што дасюль так беражліва гадавалася, ляжала ў ростырку на снезе і на ёй палаў куль саломы, Геніка будзіла маці, і ён ішоў памагаць бацьку – абсмальвалі, пасля мылі, скрэблі (бацька, зразумела, усё падпраўляў), каб пасля кормніка, перакуленага на знятыя з дрывотні дзверы, «разбіраць». Разбіраць – гэта не проста рэзаць альбо секчы, гэта – адмысловае сялянскае ўмельства, каб нешта было на сала, на мяса, на кілбасы і катлеты, на супы і булёны, на падсмажванне, на крывяную каўбасу, на сальцісон, на начынку на лета ў кіндзюку... І яшчэ – на дзялянкі сваякам і суседзям, якія частавалі свежанінай раней ці яшчэ пачастуюць. І, выбачайце, яшчэ дзецям была ўцеха – надзьмуты, а потым высахлы свіны посік з загадзя ўкінутым у сярэдзіну зернеткам гароху – так, адмысловы шар, якім дзеці забаўляліся, гулялі як мячом...

Зімой на бязлесным Амшарку адбірала вочы покрыва белізны, было вялікае раздолле для мяцеліц і снегавеяў. Ох, тады, у саракавыя і піцідзесятыя гады, былі і зімы! Бывала, намятала за ноч столькі снегу, што не толькі было цяжка адчыніць дзверы сянец. Хадзілі па платах, з бацькам Генік, як шахцёры, выкопвалі тунэль ад хаты да хлява, гумна і студні, і можна было з верху страхі з'язджаць на санках (што бацька рашуча забараняў, нават неадкойчы за гэта «ўзнагародзіў» Геніка сваім лякарствам – рэменем). Безліч разоў, калі пёксмаліў мароз, бралі курэй і сялілі іх пад печчу, а ў хаце трымалі ягнят, цяля. Бацькам – клопаты і марока, а дзецям – радасць, якую нават цяжка перадаць сённяшнім словам!

Геніку пасля пачаткоўкі прыходзілася хадзіць у Налібацкую сямігодку і Дзераўнянскую дзесяцігодку амаль за дзесяць вёрст; з іх вёрст сем – праз Налібацкую пушчу. Маці будзіла раным-рана, можа, і ў гадзін пяць, намагалася пакарміць (якое едзіва ў такі час, калі вочы яшчэ зліпаюцца ад сну!), пасля – за «тэчку» (партфельчык), а ў ёй акраец хлеба і кавалак сала, агурок – і ў школу. Туды хадзілі гуртам, але здаралася, што Генік спазняўся, адставаў ад вясковых і тэпаў адзін. Лесам. Ды аднойчы – наперадзе воўк. Не пускае наперад; Генік адступіць – ён за ім, стане – таксама запыніцца. Вось так і вывеў з лесу на поле, а потым – да вёскі. Вярнуўся Генік дамоў, усё расказаў – маці ў роспачы плач: «Можа, не хадзі ты ў тую далёкую школу». Не, Генік зусім не спакусіўся на такую слабіну-аблёгку, ён заплакаў: хачу вучыцца. І прадоўжыў сваё.

Тады не хадзілі з Івянца (былы раённы цэнтр) аўтобусы. Генік чэпаў у Налібакі, дзе яго па дарозе аднаго разу перасустрэў дзіўны воўк, пехатой. Але, трэба сказаць, быў шанец не паўзці па заснежаным шляху, а пад'ехаць. За Налібакамі – вялікі сенакос Шубін, дзе ўлетку яшчэ ў часы ВКЛ і царскай Расіі касілі і прадавалі сена. Сенажацілі і пры савецкай уладзе – толькі цяпер для калгасаў. Цёплай часінай туды было цяжка дабрацца, а вось узімку, калі балоты замярзалі, досвіткам імкнуліся на Шубін гусенічны трактар, а за ім – грузавікі. Трактар аблапошваў снег, цягнуў за сабой трохкутнія, з бярвеннаў сані, дзе звычайна на дасчаным посціле сядзелі грузчыкі. Вось Генік, як і іншыя дзецюкі, падпільноўваў гэты «гусінец», каб скокнуць з сапханага на ўзбочыну снегу, з гурбы на насціл і пад'ехаць да Налібак. Генік аднойчы таксама падлавіў момант, гойснуў, а насцілу на санях не было, і ён завіснуў на перакладзіне... Ад таго, што мог скуліцца і зламацца пад бярвеннем ды снегам і вёрсты тры брыкаўся, змагаючыся за жыццё, Генік яшчэ тады, у юную часіну, адчуў: ёсць Яна, СПАГАДНАЯ СМЕРЦЬ... Ці вось яшчэ такі выпадак:

Генік з маладой маці ідзе ў Ніўнае – у калгасную кантору, размаўляюць, вітаюцца са знаёмцамі. Насустрач паўзе лесавоз, які валачэ бярвёны з Налібацкай пушчы ў Мінск. Вось жа трэба, каля Геніка і яго маці лена-стомлена рухаўся, хістаўся па баках, стагнаў-крахтаў лесавоз, а пасля зусім нечакана на ім трэснуў ланцуг – і бярвенне паляцела ўніз. Генік з нейкай звярынымі адчайнасцю і спрытам гойснуў убок, у канаву, упаў тварам уніз, і на яго тут жа абвалілася, накрыла цяжкое бярвенне. І так перакрыжоўвалася, што гэты цяжар нават не шкрабануў Геніка. Ён некалькі гадзін ляжаў пад таўшчэзнымі камлямі, але не быў пашкоджаны, толькі на адчайна-роспачны голас маці плакаў... Яго дасталі, калі праз некалькі гадзін з'явіўся кран, падынялі ім бярвенне, і з-пад яго выпаўз ён, Генік... Маці, як казала, у той дзень зусім ссівела...

Калі снегу было няшмат, то яны, хутарскія дзеці, расчышчалі яго на поплаве, дзе вясной спрабавалі плаваць у начоўках, і каталіся па лёдзе на каньках (на драўляных калодачках з прымацаваным да іх спадніцу тоўстым дротам), гулялі ў янкавінскі хакей (ганялі, забівалі кіямі ў вароты бляшанку з-пад кансерваў) альбо насаджвалі на загадзя ўвосень усаджанае пасярод поплава, на копанцы, бярвенца кола, мацавалі да яго жэрдку, а да яе прывязвалі санкі. Хтосьці садзіўся на іх, а хтосьці піхаў перад сабой тую жэрдку – кола круцілася, а санкі ўсё больш несліся са свістам ветру за вушамі. Зімой былі і іншыя радасці – скажам, калі ацельвалася карова і калі хутка зноў можна было паспрабаваць малака, смятаны, калі, надзяўбаўшыся гліны пад печчу і пачуўшы вясну, пачыналі несціся куры. Здараліся зімовыя начныя туманы, і Генік раніцай колькі разоў не мог са свайго хутара трапіць у вёску, блукаў узбоч яе, дык каб не блытацца, шлях да цэнтра яе ўтыкалі хваёвымі ці яловымі галінкамі.

...Шмат з таго жыццёвага кругабегу забылася ці не зусім помніцца, у які год што было, але, бывае, штосьці зусім неспадзявана і ярка ўсплыве з памяці. Як, да слова, аднойчы зімовай месячнай ноччу бацька паклікаў яго на двор і паказаў на блізкую пагонку: па ёй ішла вялізная гайня ваўкоў. Ні адзін сабака і на хутары, і ў вёсцы нават не абзыўнуўся ад вусцішу. Ці як да іх завіталі цыганы, анучнікі, жабракі, бабыль Адвард. Маці, карміла іх, пакідала на начлег, а яны прыносілі навіны, а анучнік з Івенца, Шлёмка, і Адвард дастаўлялі тое, што прасілі.

Каб цяперашняму Геніку пра ўсё тое, хутарское, напісаць як след, то, мабыць, не хопіць для гэтага яго жыцця. А ўвекавечыць словам свой «родны кут» трэба, іначай ён, неапеты, будзе безымянны, усяго толькі яшчэ аднымі нейкімі полем, лесам, людзьмі, вёскаю...

*2004–2005*



*Хутар Амшарок былога Івянецкага раёна. 1956 г. Злева направа: сядзяць на зямлі Генрых Далідовіч (10 гадоў), брат Рычард. Пасярод – сястра Ганна і бацькава цётка Марыля. Стаяць дзядзька Антось, бацька Вацлаў Уладзіслававіч з сынам Янкам, сусед Мікалай, маці Яніна Іосіфаўна*

## Сем цудаў Беларусі

***На наш заклік даць сваё разуменне сямі цудаў Беларусі адгукнуліся ўжо пісьменнікі, журналісты, хатнія гаспадыні і інш. Але пошта прынесла цэлы стос водгукаў ад моладзі, студэнтаў. Сёння мы друкуем частку з таго, што даслалі студэнты і выкладчыкі з Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.***

***Эдуард КАРНІЛОВІЧ, журналіст, гісторык, палітолаг:***

1) горад Полацк і яго славуты сын Францыск Скарына;
2) Белавежская пушча з яе веліканам-зубрам;
3) возера Нарач як крыніца прыгажосці і здароўя;
4) беларуская мова і беларуская літаратура (Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, К. Крапіва, М. Танк, І. Мележ і інш.) як прызнак нацыянальнай самабытнасці;
5) горад-герой Мінск («Фенікс») з яго палітычным, прамысловым, навуковым і культурным цэнтрам краіны, з яго сучасным абліччам;
6) горад Жодзіна з яго манументам у гонар Маці-патрыёткі Н.Ф. Купрыянавай, пяць сыноў якой загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны; з яго БелАЗам, які выпускае вялікагрузныя аўтасамазвалы;
7) вёска Нізок Уздзенскага раёна, у якой нарадзілася шмат таленавітых людзей (пісьменнікі К. Крапіва, П. Трус, Л. Арабей і інш.).

***Юлія КУЛІК, 2 курс:***

1) беларус як працавіты прадстаўнік беларускай нацыі, незалежнага беларускага народа;
2) беларускі зубр – сапраўдны сімвал Белавежскай пушчы;
3) беларускія балоты, якія называюць «лёгкімі Еўропы»;
4) Браслаўскія азёры – адно з пацвярджэнняў сінявокай Беларусі;
5) горад Полацк з усёй яго архітэктурай і сынам полацкай зямлі Францыскам Скарынам;
6) Васіль Быкаў;
7) Мірскі замак.

***Наталля МАЛАШ, 2 курс:***

1) белорусский язык; он один из самых мелодичных в мире, только в нём есть буква «ў»;
2) Браславские озёра и вообще все озёра Беларуси;
3) Беловежская пуща, где в природных условиях содержится большое количество животных, птиц и растений, которые встречаются лишь на очень-очень малой территории (например, зубры);
4) Полоцк как впервые упомянутый в летописях город, вырастивший таких знаменитых людей, как Франциск Скорина и Ефросинья Полоцкая. Кроме того, в Полоцке находится знаменитый Полоцкий собор;
5) белорусские праздники с их обычаями и обрядами;
6) белорусские традиции и фольклор (песни, наряды и т.д.);
7) слуцкие пояса (знаменитые ещё в давние времена, прославившие белорусскую землю) и другие специфические ремёсла (соломоплетение и пр.).



## Крыжаванка «Мой родны кут Дзяржыншчына»

***Уздоўж***

**5**. Геолаг, навуковы супрацоўнік АН БССР. У сааўтарстве з І. Шпілеўскім напісаў кнігі «Мястэчкі Койданава», «Гістарычны нарыс Дзяржыншчыны (Койданаўшчыны)» і інш. Рэпрэсаваны, расстраляны ў 1934 г. Рэабілітаваны ў 1956 г. **6**. Вёска ў Дзяржынскім раёне, малая радзіма вядомага беларускага паэта і празаіка С.П. Шушкевіча. **9**. Папараць, звычайная ў хвойных лясах Дзяржыншчыны. **10**. Беларускі географ, доктар педагагічных навук, прафесар. Аўтар падручнікаў па геаграфіі для сярэдніх школ. Жыў у г. Дзяржынску. **11**. Польскі і беларускі паэт, краязнавец XIX ст. У працы «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» даследаваў гістарычнае мінулае і жыццё сялян Койданаўшчыны. **14**. Назва вышэйшага пункта Беларусі – гары Дзяржынская (вышыня 345 м над узроўнем мора) да 1958 г. **17**. Апорныя элементы каркаснай канструкцыі страхі. **18**. Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Мінскай вобласці ў часы ВАВ. **19**. Беларускі пісьменнік, ураджэнец в. Скварцы Дзяржынскага раёна. Аўтар зборніка апавяданняў і аповесцей «Ні госць, ні гаспадар». Рэпрэсаваны, расстраляны ў 1937 г. Рэабілітаваны ў 1956 і 1965 гг. **20**. Ядомы грыб са слізістай скуркай на шапачцы. Не рэдкі ў лясах Дзяржыншчыны. **23**. Назва самабытнага вакальнага гурта Дзяржынскага дома культуры, які аб'ядноўвае 3 сям'і. Лаўрэат рэспубліканскага ўсеармейскага фестывалю салдацкай песні. Званне народнага прысвоена ў 2001 годзе. **25**. Пасада ў ВКЛ і Польшчы. Службовец вялікага князя. Наразаў закускі да стала і адказваў за іх якасць. **26**. Ураджэнец Дзяржынскага раёна. Мовазнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар, удзельнік ВАВ. Аўтар манаграфій «Беларуская антрапанія», «Беларуская граматыка» і інш. **30**. Вёска ў Дзяржынскім раёне, дзе пахаваны вядомы беларускі паэт, драматург, празаік, мастак, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху Карусь Каганец. **32**. Беларускі і рускі вучоны-славіст, археолаг, пісьменнік XIX ст. У 1892 г. вывучаў гарадзішча ў в. Чэрнікаўшчына. **33**. Маршал Савецкага Саюза. У пачатку ВАВ, будучы параненым, некаторы час разам з байцамі жыў у в. Александрова Дзяржынскага раёна. **34**. Беларускі акцёр, ураджэнец в. Крыловічы. Адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра. Заслужаны артыст Беларусі. З 1921 г. у БДТ-1 (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы). **35**. Вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы. У 1505 г. наведаў Койданава, некалькі дзён гасцяваў у маёнтку Радзівіла.

***Упоперак***

**1**. Прастора, далягляд. **2**. Беларускі літаратуразнавец, педагог, доктар філалагічных навук, прафесар. Ураджэнец в. Ляхавічы. Аўтар манаграфій «М. Горкі і беларуская літаратура пачатку XX ст.», «Да вышынь рэалізму». **3**. Інструмент для акорвання і габлявання дрэва. **4**. Ураджэнец г. Дзяржынска. Беларускі вучоны-кібернетык, публіцыст, член Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій. Аўтар больш за 500 навуковых, навукова-папулярных артыкулаў і нарысаў. **5**. Беларускі вучоны, мовазнавец, прафесар. Ураджэнец в. Малыя Навасёлкі. У сааўтарстве выдаў «Марфемны слоўнік беларускай мовы», «Словаўтваральны слоўнік беларускай мовы». **7**. Ураджэнец Дзяржыншчыны, гісторык-журналіст, удзельнік ВАВ. Працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва «Вышэйшая школа», «Навука і тэхніка». Аўтар кніг «Стаяць насмерць», «Яны абаранялі Мінск» і інш. **8**. Юры з расой, а... з сяўбой (прык.). **12**. Тое, што засталося пасля злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў ад вёсак Глухое, Літавец, Любажанка, Скірмунтава і іх жыхароў. Вёскі – сёстры Хатыні. **13**. Беларускі вучоны і літаратуразнавец, ураджэнец в. Малыя Навасёлкі. Аўтар кніг «Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагародскі перыяды», «Па слядах аднаго міфа» і інш. Помнікі яму пастаўлены ў гарадах Маладзечна і Старыя Дарогі. **15**. Аматар пагаманіць. **16**. Ураджэнец Дзяржыншчыны. Герой Савецкага Саюза, удзельнік савецка-фінскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, Айчыннай вайны, Чырвонай Зоркі і медалямі. **21**. Назва футбольнай каманды Дзяржынскага раёна, чэмпіёна Беларусі 2003 г. **22**. Спецыяліст па вывучэнні польскай мовы, літаратуры, культуры. **24**. Беларускі пісьменнік, гісторык, этнограф, краязнавец. Населеным пунктам Койданаўшчыны прысвяціў каля 50 артыкулаў. **27**. Культавы будынак у г. Дзяржынску, які сваёй архітэктурай упрыгожвае цэнтр горада. **28**. Царкоўны і палітычны дзеяч XVI–XVII стст. у ВКЛ. Заснаваў езуіцкія калегіумы ў Вільні, Полацку і інш. населеных пунктах Беларусі. **29**. Герой Савецкага Саюза. Ураджэнец в. Шпількі. У Вялікую Айчынную вайну камандзір дывізіёна эскадраных мінаносцаў. Паспяхова правёў шэраг аперацый па канваіраванні транспартаў і пошуку варожых падводных лодак. **31**. Дораг той..., дзе рэзалі пупок.

***Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск***



***Адказы на крыжаванку дасылайце на працягу двух тыдняў.***

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

**ВЕСНАВЫЯ ПЕСНІ** – жанрава разнастайны цыкл каляндарна-земляробчага фальклору. На Беларусі – з дзвюх частак: песні абагульненыя (*вяснянкі, валачобныя песні, карагоды, юраўскія, траецкія, русальскія песні*) і песні з больш індывідуальнымі напевамі (*паставыя, велікодныя, мікольскія*, а таксама тыя лірычныя, што прыстасаваны да вясны і інш.). Спявалі іх з пачатку сакавіка («як на снезе паявяцца праталіны») да чэрвеня («дакуль зязюля кукуе»).

У веснавых песнях падкрэсліваліся ўвага, любоў чалавека да прыроды, да земляробчай працы, віталіся цяпло і першая зеляніна, былі спадзяванні на багацейшае жыццё, апяванне кахання і сям'і, гарэзныя матывы.

**ВЕТКА** – горад, цэнтр Веткаўскага раёна, прыстань на рацэ Сож. За 22 км ад Гомеля. Заснавана ў 2-й пал. XVII ст., з 1784 г. мястэчка. Былі развітыя гандаль, кавальства, выраб якараў і канатаў. Па перапісе 1897 г. было 7,2 тысяч насельнікаў. З 1919 г. у Гомельскай губерні РСФСР, з 1925 г. горад, з 1926-га ў БССР, цэнтр раёна. У нямецка-фашысцкую акупацыю (са жніўня 1941 па 29.09.1943) разбурана. Да канца XX ст. побач з рознымі грамадскімі і культурнымі пабудовамі пераважалі 1-павярховыя забудовы сядзібнага тыпу.

За 2–3 км на поўнач ад Веткі на беразе Сажа стаянка эпохі неаліту і бронзы (IV–I тысячагоддзе да н.э.) і паселішча ранняга этапа мілаградскай культуры. Вядомая сярод спецыялістаў Веткаўская разьба – архітэктурны дэкор, што пашыраны ў г. Ветка і навакольных вёсках і які быў занесены перасяленцамі (стараверамі) з цэнтральных губерняў Расійскай імперыі ў XVII–XVIII стст. У гэтым дэкоры паступова пачалі спалучацца рускія і мясцовыя беларускія традыцыі народнага архітэктурнага мастацтва. Ёсць прамысловыя прадпрыемствы, уздоўж ракі паркавая зона. Веткаўскі дзяржаўны музей народнай творчасці захоўвае унікальныя творы майстроў гэтага самабытнага рэгіёна; створаны на базе калекцыі заслужанага работніка культуры Беларусі Г. Шклярава, які быў першым дырэктарам музея.

**ВЕТРАЗІ** ў архітэктуры – элементы купальнай канструкцыі, якія забяспечваюць пераход ад квадратнай у плане падкупальнай прасторы да акружнасці купала ці яго барабана; адзін з асноўных канструкцыйна-мастацкіх элементаў візантыйскай і старажытнаславянскай архітэктуры. Ветразі ў архітэктуры праявіліся ў стылях рэнесансу, барока, класіцызму і інш.

На Беларусі ветразі былі выкарастаныя ў мураванай культавай архітэктуры XI–XII стст. (Барысаглебская царква ў Гродне). Засведчыліся два асноўныя віды: у выглядзе сферычных трохкутнікаў, павернутых вяршыняй уніз і плоскіх трохкутнікаў. У драўляным дойлідстве XVII–XIX стст. вядомы ветразі сферычныя, плоскія нахіленыя, гарызантальныя і адваротныя, прамыя і адваротныя, дзе праявіліся розныя архітэктурныя разнастайнасці.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.



Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 08.06.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02. 2004 г.)
Заказ 852.
Тыраж 1470 асобнікаў.